ЛіМ

# ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

29 ЖНІЎНЯ 2003 г. № 35/4221

Сістэма і тэхналогія ідэалагічнай работы ў нашай краіне ў сучасных умовах сталі галоўнай тэмай нарады, якую 13 жніўня правёў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка. Многія пісьменнікі ўжо адгукнуліся на гэтую важную ў жыцці краіны падзею. Сёння мы пачынаем друкаваць іх матэрыялы.

2-5



*Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА:* "Будучыня нашых дзяцей — залежыць і ад таго, што яны спажываюць з тэлеэкранаў".



11





# Духоўная СКАРБНІЦА НАРОДА

**Нацыянальная бібліятэка Беларусі — гонар і святыня нашага народа. Гэта цэнтр кніжнасці, асветы, навукі, буйнейшы збор самых розных выданняў — у тым ліку рэдкіх і старажытных.**

***Гутарка з дырэктарам Нацыянальнай бібліятэкі Раманам МАТУЛЬСКІМ***

на стар. 14-15

# КОЛА ДЗЁН

7 верасня ў старажытным Полацку пройдуць юбілейныя, 10-я па ліку Дні беларускага пісьменства. Яшчэ трэцяга верасня з Мінска стартуе Рэспубліканская навукова-творчая экспедыцыя "Дарога да святыняў з Благадатным Агнём ад Гроба Гасподняга", якая пройдзе праз Паставы, Глыбокае, Шаркаўшчыну, Браслаў, Міёры, Верхнядзвінск і Наваполацк. А завяршыцца яна, як мяркуецца, у Полацку а сёмай гадзіне раніцы, на пляцоўцы ля помніка Еўфрасінні Полацкай. Каля кінатэатра "Радзіма" будзе ўрачыста адкрыты помнік Сімяону Полацкаму. Адным з самых цікавых мерапрыемстваў абяцае стаць выстава "Старадрукі з музеяў і бібліятэк Беларусі", якую прадставіць Музей беларускага кнігадрукавання.

### ПЛАНЫ ТЫДНЯ

З 27 па 30 верасня ў Маскве пройдуць Дні Беларусі. Сённяшні дзень нашай краіны будзе шырока адлюстраваны ў адным з павільёнаў Выстаўкі дасягненняў народнай гаспадаркі Расійскай Федэрацыі. У канцэртнай зале "Расія" адбудзецца вялікі гала-канцэрт, у якім возьмуць удзел больш за 200 выканаўцаў. Усе акругі Масквы будуць ахоплены культурнай праграмай нашай краіны. Словам, будзе на што паглядзець і што паслухаць.

### ВЫЗВАЛЕННЕ ТЫДНЯ

Кіраўнік нашай дзяржавы вызваліў ад пасады памочніка Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь — начальніка галоўнага ідэалагічнага ўпраўлення Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Івана Карэнду ў сувязі з пераводам на іншую работу.

### МЕСЦА ТЫДНЯ

Па велічыні заробкаў Беларусь знаходзіцца на трэцім месцы сярод дзяржаў СНД. Сярэднемесячная намінальная зарплата ў першым паўгоддзі склала ў Беларусі 231 тысячу рублёў (каля 112 долараў). Лідзіруюць Расія — 167 долараў і Казахстан — 149. На чацвёртым месцы Украіна з 80 доларамі.

### ПАСТАНОВА ТЫДНЯ

Камісія па справах непаўналетніх створана пры Савеце Міністраў Беларусі. Пастанову аб гэтым прыняў урад нашай краіны. Узначаліў камісію намеснік прэм'ер-міністра Уладзімір Дражын. У склад увайшлі міністр адукацыі Аляксандр Радзькоў, намеснік міністра унутраных спраў Аляксандр Шчурко, прадстаўнікі міністэрстваў унутраных спраў, фінансаў, юстыцыі, абароны, культуры, аховы здароўя, працы і сацыяльнай абароны, спорту і турызму, а таксама Беларускага рэспубліканскага саюза моладзі, Мінскага гарвыканкама і Вярхоўнага суда.

### ПЕРСПЕКТЫВА ТЫДНЯ

У наступным годзе ў Расіі ў Іркуцкім лінгвістычным універсітэце плануецца адкрыць факультэт беларускай мовы і літаратуры. Пра гэта паведаміў старшыня Іркуцкага таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага, выкладчык гісторыі Алег Рудакоў. Акрамя таго на адной з мясцовых FM-станцый з лютага 2004 года плануецца адкрыць праграму "30 хвілін беларускага року", каб знаёміць слухачоў з беларускай музыкай. Дарэчы, сёння з 5 мільёнаў, якія жывуць у Іркуцкай вобласці згодна з перапісам 50 тысяч — гэта беларусы.

### КЛОПАТ ТЫДНЯ

За шэсць месяцаў гэтага года ў Мінску ў грамадскім транспарце кантралёрамі было выяўлена больш за 100 тысяч "зайцаў". З іх 90 працэнтаў — моладзь ад 17 да 25 гадоў. У большасці выпадкаў нядбайныя пасажыры прызнаюць сябе "зайцамі" і плацяць штраф на месцы. У летнія месяцы ў сталіцы прадавалі 150 кантралёраў. У хуткім часе іх колькасць павялічыцца.

### ПЕРАХОД ТЫДНЯ

З 1 верасня сталічная падземка пераходзіць на зімовы графік руху цягнікоў. У гадзіны пік інтэрвал руху на першай лініі скароціцца з трох да дзвюх хвілін, а на другой — з трох да дзвюх з паловай. Павялічыцца і колькасць электрычак, асабліва на першай лініі.

### ЗАЯВА ТЫДНЯ

На працягу бліжэйшых 20 гадоў будзе створана тэхналогія для пачатку асваення Месяца і стварэння на ім пастаянных паселішчаў. Пра гэта заявіў супрацоўнік Еўрапейскага касмічнага агенцтва Бернар Фуа.

## БУДЗЕМ РАЗАМ!

Шаноўныя чытачы! Вы, відаць, даўно заўважылі, што ў кіёсках часам зусім немагчыма купіць наш штотыднёвік. Гэта звязана не толькі з тым, што "ЛіМ" купляюць, але і з тым, што з кожным кварталам продаж штотыднёвіка ў розніцу скарачаецца. Таму варта "ЛіМ" выпісваць, тым больш, што падпіску можна аформіць у любым паштовым аддзяленні і ў любы час. Кошт індывідуальнай падпіскі на 1 месяц — 2500 рублёў, на квартал — 7500 рублёў. Індывідуальны індэкс — 63856. Кошт ведамаснай падпіскі на 1 месяц — 4000 рублёў, на квартал — 12000 рублёў. Ведамасны індэкс — 63857.

ЗАПАТРАБАВАНА ЧАСАМ

***Сістэма і тэхналогія ідэалагічнай работы ў нашай краіне ў сучасных умовах сталі галоўнай тэмай нарады, якую 13 жніўня правёў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка. Многія пісьменнікі ўжо адгукнуліся на гэтую важную ў жыцці краіны падзею. Сёння мы пачынаем друкаваць іх матэрыялы.***

# РОСКВІТ КРАІНЫ ВЫЗНАЧАЕ ДУХОЎНЫ РОСКВІТ НАЦЫІ



Дзяржава, дзяржаўнасць, дзяржаўная незалежнасць, дзяржаўная ідэалогія... Словы не проста ўтвараюць адзіны непарыўны рад — парушыўшы гэту непарыўнасць, адасобіўшы адно паняцце ад другога, мусіш прызнаць, што ўсё збудаванне становіцца хісткім, няўстойлівым і рана ці позна калі і не разбурыцца, то сур'ёзна дэфармуецца. Прыкладаў таму ў гісторыі шмат — цывілізацыі гінулі, губляючы ўстойлівасць! Што ж гаварыць пра сённяшні час, пра жыццё дзяржавы ў свеце, які жыве ў адзіным інфармацыйным полі, а ўсе мы пастаянна падвержаны перакрыжаваным, часта абсалютна супрацьлеглым уплывам і ўздзеянням? Непераадоленых бар'ераў не існуе, граніцы становяцца ўсё больш "празрыстымі", любыя адлегласці пры сучасным тэмпе развіцця авіяцыі сціснаюцца да некалькіх гадзін лёту, сотні радыё- і тэлеканалаў дзень і ноч працуюць, прамываючы мазгі ўсім жадаючым і нежадаючым. А яшчэ ж — тысячы тон газетнай, часопіснай, кніжнай прадукцыі! А яшчэ — тысячы яўных і кабінетных рашэнняў, пагадненняў, загадаў і ўказаў, тысячы падраздзяленняў розных дыпмісій і спецслужбаў! Не хочацца прыкрыць вочы і хоць на міг задумацца пра сваё месца ў гэтым свеце, пра свой сыноўні абавязак перад Айчынаю?

Канечне, можна запярэчыць, сказаць: усе мы дзеці Божыя, усе мы дзеці Зямлі... Але гэта слабае пярэчанне. Пярэчанне таго, хто не знае Бога і не любіць зямлю — дараваны ім нам прытулак, хто не чуе голасу сваёй душы і не следуе запаведзям, ёй, душы, запаведаным. Месца кожнага — у той кропцы на зямлі, якая пазначана яго нараджэннем, абавязак кожнага — стаць годным сынам гэтай зямлі, доўжачы род свой, шануючы мову сваю, выхоўваючы ў дзецях і ўнуках працалюбства і гордасць за здзейсненае, створанае продкамі, бацькамі і імі самімі. Гэта заўсёды ведалі падзвіжнікі, асветнікі на зямлі беларускай — гэтаму вучылі і вучаць.

Тое, што сёлетнім годам прыспела сур'ёзная гаворка пра неабходнасць яднання грамадства вакол вызначанай усім ходам нашай гісторыі нацыянальнай ідэі, сведчыць на карысць яе, гэтай ідэі, не змарнаванай, не страчанай ні ў адным са стагоддзяў, ні на адным гістарычным этапе, куды б гісторыя ні паварочвала, якую б ношку на плечы народа ні ўзвальвала. Народныя звычаі і традыцыі, нормы паводзінаў і адносіны да працы, сямейны і абгісторыі, культуры, мовы, літаратуры. Вызначыцца з нацыянальнай ідэяй сягоння і проста, і вельмі складана, адказна. Нацыянальная ідэя павінна аб'ядноўваць і правых і левых, і старых і маладых, і вяскоўцаў і гараджан, і багатых і бедных, і спартсменаў і інвалідаў, прадстаўнікоў розных нацыянальнасцяў, прыхільнікаў розных веравызнанняў... Магчыма, улічваючы роскід поглядаў, палярнасць у грамадстве, гэтая ідэя напачатку можа быць шматступенчатай: ад меншага да большага і далей. Але яна павінна ўлічваць самабытнасць народа. Мажліва, адной з першых ступенек нацыянальнай ідэі будзе стварэнне ўсебакова шчаслівага дзяцінства і мацярынства. Гэта можа арганізаваць усіх працаваць на перспектыву, на нашу будучыню. Хіба не трывожыць усіх сягоння, што, як сцвярджае вядучы навуковы супрацоўнік НДІ аховы мацярынства і дзяцінства Ірына Ваніловіч, "у падлеткавым узросце з цяжкасцю ўдаецца знайсці абсалютна здаровае дзіця"...

Выключная роля ў ажыццяўленні дзяржаўнай ідэалагічнай работы, у правядзенні дзяржаўнай ідэалогіі ў жыцці належыць літаратуры, літаратурна-мастацкім выданням.

**Далучымся да клопату Прэзідэнта Беларусі, абранага намі, прымем яго клопат як уласны клопат пра сваіх дзяцей і ўнукаў — росквіт культуры, духоўны росквіт нацыі не прамарудзіць.**

# ПРАЦАВАЦЬ НА НАШУ БУДУЧЫНЮ

Усцешвае і абнадзейвае тое, што сягоння ў нашай краіне на самым высокім узроўні надаецца значная ўвага пытанням дзяржаўнай ідэалогіі. Час, жыццё, падзеі ў свеце яшчэ раз пацвердзілі, што некалі аб'яўленая дэідэалагізацыя грамадства — вялікая памылка, якая з цягам часу можа прывесці да непрадказальных страт. Упэўнены, што дзяржаўная ідэалогія павінна ўлічваць нашы гістарычныя карані, уключаць адметныя асаблівасці эканамічнага, сацыяльнага, палітычнага, духоўна-культурнага развіцця, рэлігійныя адносіны, прыярытэты ў міжнародных стасунках. Неабходна прадуманая, тактоўная, абгрунтаваная, эфектыўная ідэалагічная работа ў грамадстве. Формы і метады такой работы павінны быць разнастайнымі, гнуткімі, прымальнымі для пераважнай большасці народа. Ідэалагічная работа ні ў якім разе не можа насіць дзяжурнага характару, быць кампанейшчынай. Дзяржаўная ідэалогія не можа быць ідэалогіяй пэўнай групы чыноўнікаў, нейкай партыі ці арганізацыі. Бясспрэчна, каб наладзіць дзейсную дзяржаўную ідэалагічную работу, спатрэбяцца падрыхтаваныя кадры, шмат высілкаў, нямала часу.

**Ствараць заўсёды цяжэй, чым разбураць. Тым больш — ствараць у зусім новых умовах. Але час, як кажуць, выбраў нас...**

Саюз з братняй Расіяй якраз можа паспрыяць вырашэнню гэтых вялікіх задач, замацаванню нашага сапраўднага суверэнітэту. На маю думку, ідэалогія нашай дзяржавы ў многім будзе залежаць ад беларускай нацыянальнай ідэі, якая павінна згуртаваць народ. Гэтая ідэя не можа абысціся без уліку самабытнасці нашага народа, яго

шчынны ўклад, спадчынная мужнасць і перадаваемая з пакалення ў пакаленне мудрасць таму і вызначаюць беларусаў, што не ў кабінетах ці манастырскіх келлях нараджаліся і сцвярджаліся, а ў народзе, сярод простага люду, што спрадвек знаў і кошт хлеба, і кошт чалавечае дабрыні і мужнасці. І клопат наш павінен быць не пра "выпрацоўку" новай і, як здаецца некаторым разумнікам, адпаведнай новаму часу нацыянальнай ідэі, а пра ачышчэнне яе, спаконвечнае, ад нанесенага рознымі вятрамі і наліплага да яе смецця. Праявы вякамі насаджаемых мужыкаватасці і забітасці, ніколі не ўласцівая беларусам схільнасць да самапрыніжэння, сляпая рэвалюцыйная пасіянарнасць там, дзе даволі здаровага сэнсу, здрадніцтва дзеля нажывы ці палітычнай кар'еры — хіба гэта наша, спадчыннае? Хіба гэтым вызначаліся і ганарыліся продкі нашы?

Не, смецце і ёсць смецце. Руплівы гаспадар не пакіне яго ні ў парозе, ні ля ганку — вымеце і вадою ўслед пакрапіць, пыл асаджваючы. І хіба не гэткай жа руплівасці патрабуе і жыццё духа, жыццё духоўнае, якое не адно рэлігійнасцю вызначаецца і вымяраецца, а і культураю — культураю не толькі ў сферах адукацыі і выхавання, а і ў штодзённым побыце. Корань слова народ — род: народ — гэта заўсёды родавая абшчына, сям'я, і калі знікае ці вынішчаецца ў народзе адчуванне сям'і, знікаюць еднасць і згода.

Думаю, шмат каго, як і мяне, узрадавала, што ў той час, як нас з усіх бакоў палохаюць то прывідамі з "жахлівага камуністычнага мінулага", то віртуальнымі пагрозамі новай "дыктатуры", у лідэра краіны стае мужнасці і мудрасці вынесці на ўсенароднае абмеркаванне сістэму і тэхналогію ідэалагічнай (чытай: выхаваўчай) работы ў краіне, з усёй вастрынёю паставіць пытанне аб неабходнасці захавання "імуннай сістэмы" чалавека і грамадства здаровай і жыццядзейснай. Як? Якімі сродкамі? Якімі намаганнямі? Гэта нам — усяму грамадству! — вырашаць. Далучымся да клопату прэзідэнта Беларусі, абранага намі, прымем яго клопат як уласны клопат пра сваіх дзяцей і ўнукаў — росквіт культуры, духоўны росквіт нацыі не прамарудзіць.

Адмаўчымся, агароджваючы сваё прыватнае жыццё ад патрэбаў грамадства, ад патрэбаў будучыні як мага шчыльней, штосьці, штосьці важнае ў імуннай сістэме рода, народа будзе парушана і наступствы акажуцца ў хуткім часе непрадказальнымі.

Лічу сваім абавязкам сказаць гэта цяпер — да таго, як (так або іначай) будзе выбудавана "ідэалагічная вертыкаль", таму што ніякая вертыкаль поспех на ніве ідэалогіі не забяспечыць, калі "глухімі" застануцца сэрцы дзесяткаў, сотняў тысяч настаўнікаў, урачоў, выхавацеляў, вучоных, журналістаў, работнікаў сельсаветаў і гарсаветаў — сэрцы ўсіх нас, бацькоў сваіх дзяцей. Хто сёння не ведае, што парушэнні ў рабоце імуннай сістэмы арганізма (любога арганізма!) вядуць да мутацыі, а то і да гібелі яго? — арганізм становіцца безабаронным, адкрытым для любых інфекцый, для любога калецтва на генным узроўні. Арганізм грамадства — таксама.

**Нездарма найбольшыя разбурэнні ў той ці іншай краіне ў любым з прамінулых стагоддзяў назіраліся там, дзе былі разбураны (ці падменены) традыцыйныя ўяўленні і духоўныя вартасці.**

Нездарма і сёння ўсе развітыя краіны ўкладваюць аграмадныя сродкі ў СМІ і сістэмы міжнароднай сувязі: адны імкнуцца "цывілізавана" паглынуць іншых, слабейшых, другія — вымушаны абараняцца ад экспансіі чужой ідэалогіі, чужой культуры, каб выжыць, не страціць нацыянальнай, ментальнай адметнасці.

Паверце, гэта зусім не тэарэтызаванне з нагоды... У дзесятках артыкулаў, ва ўсіх сваіх кнігах, паэтычных і празаічных, выказвала я трывогу, бачачы, як бяздумна прапагандуюцца чужыя, не ўласцівыя нам, беларусам, нормы і каштоўнасці ў сферы маралі і культуры, як, атросшыся ад аскепкаў разбуранай вялікай дзяржавы, абрастае ахоўным (ад каго? ад свайго народа?) панцырам чыноўніцтва, як нахабна прысвойваецца ўсё нацыянальнае тымі, хто дзень і ноч даводзіў сабе, людзям і ўсяму свету, што толькі яны па-сапраўднаму любяць сваю Бацькаўшчыну і турбуюцца пра лёс яе, а ўсе астатнія — толькі носьбіты рабскае псіхалогіі, толькі быдла і марна імкнуцца аспрэчыць манапольнае права "нацыянальнай эліты" на патрыятызм...

Дарэчы, пра эліту... Хто толькі ні прымерваў на сябе "элітарнасць", як самую наймодную адзежку! А зірнуць уважлівей — у аднаго падробная шапка Манамаха за пазухай, у другога ад замежнай валюты кішэні адтапырваюцца, у трэцяга баявая расфарбоўка нацыяналістаў псуе даволі дэмакратычнае аблічча, у чацвёртага... Урэшце, у народзе ніколі не памыляліся наконт цаны падобнае апраткі ад высока аплачваемых куцюр'е ад палітыкі. Пэўна, прыйшоў час і на дзяржаўным узроўні вызначыцца, пазначыць ідэалагічныя арыенціры, памятаючы, што народныя традыцыі адно ў народзе нараджаюцца і сцвярджаюцца, а адзіны клопат дзяржавы — зыходзячы з іх, на іх аснове, выпрацаваць дзяржаўную палітыку ў сферы ідэалогіі. Прасцей кажучы — у сферы выхавання г р а м а д з я н, грамадзян новай суверэннай Беларусі. У сферы, дзе, трэба прызнаць, не ўсё так добра, як здаецца ці падаецца.

Мяне, як кожнага , хто глядзіць не на афарбоўку (тым больш, не на тую ці іншую палітычную шліфоўку) слова, а ў корань яго, не пужае слова "ідэалогія", і ўсё ж я глыбока пераканана, што наноў створаная армія ідэолагаў, ідэалагічных работнікаў справы не зрушыць. Іх проста, у выпадку чаго (калі, да прыкладу, стане сур'ёзна прабуксоўваць штосьці ў сістэме адукацыі, культуры ці інфармацыі) зробяць чарговымі "казламі адпушчэння". Не чыноўнікі (пры ўсёй павазе да іх статусу) сцвердзяць, паспрыяюць ачышчэнню і росквіту нацыянальнай ідэі і цаглінка за цаглінкай выбудуюць новую ідэалогію беларускай дзяржавы, а настаўнікі, выхавацелі, кіраўнікі працоўных калектываў, журналісты, музыканты, акцёры, пісьменнікі — іх трэба толькі падтрымліваць, сярод іх вылучаючы тых, да каго прыслухоўваюцца людзі, для каго духоўны подзвіг яшчэ штосьці азначае.

Чыноўніцтва, калі яно вылучае сябе як клас, агароджваючыся ўсё больш неадольнымі бюракратычнымі бар'ерамі (менавіта гэта мы сёння назіраем), уяўляе сабой небяспеку для любога дзяржаўнага ўкладу не таму, што прагне і дамагаецца для сябе ўсё новых і новых прывілеяў (часам заслужаных, часцей незаслужаных), а таму, што з-за ўзведзенай агароджы не чуе ні пратэстаў, ні парад і, хоць і мкнецца кіраваць усімі жыццёвымі працэсамі, не бачыць, не адчувае жыцця, якім жыве народ.

Вось і выбудоўваюцца не рэальныя, а народжаныя ў "прабірках" закуліснай палітычнай барацьбы чыноўныя — і не чыноўныя (да прыкладу, творчыя ці навуковыя) — іерархіі, калі ў мастацкія ці інтэлектуальныя аўтарытэты ўзводзяцца "свае" або тыя, хто ўмее прытварыцца "сваім". Вось і пішуцца (праз СМІ ці напрамую, ліставаннем) нічым не абгрунтаваныя допісы (так і хочацца сказаць: даносы), у якіх, "ничтоже сумняшеся" канстатуецца: у нас няма літаратуры... уся інтэлігенцыя заражана вірусам нацыяналізму... школа павінна даваць толькі веды, выхаваннем няхай займаецца сям'я... няма масавага попыту — няма з'явы ў культуры (ці ў літаратуры, ці ў навуцы)... І каб жа толькі пісалася — сцвярджаецца! Ва ўсіх інстанцыях. На ўсіх узроўнях. І не прабіць гэту кругавую абарону — і трэба, трэба прабіваць. Каб канчаткова не страціць самапавагу. Каб мужнасць, гордасць за свой род, за свой народ вызначалі і дзяцей, і ўнукаў нашых.

І не варта вынаходзіць тое, што вынайдзена і даўно сцверджана ў народзе: быць мудрэйшым за народ нікому не дадзена! І дзякаваць Богу. Бо вось жа не прымаюцца беларусамі "на ўра" навязваемыя тэлебачаннем і кінапракатам баевікі і трылеры (сапраўдных крывавых войнаў хапіла!) ні бясконцыя шпіёнскія выданні, не ўсчынаецца віск вакол старых ці новых эстрадных зорак (адна з "неаспрэчных" зорак — Міхаіл Фінберг, ды і той з аркестрам вядомы больш па маскоўскіх эстрадных тусоўках). А ўсё таму, што памяркоўнасць — гэта не толькі цярплівасць, як часта сцвярджаецца, а яшчэ і спрадвечная перакананасць, што ўласнае існаванне павінна мець сэнс, да таго ж, не нейкі там прыдуманы сэнс, а вялікі і неабвержны. Той, які шукае сапраўднае мастацтва, які сцвярджае сапраўдная літаратура, які ўскрасае ў сапраўды народнай музыцы.

Пэўна ж, прасцей працаваць з тымі, хто імкнецца проста вылучыцца, пакрасавацца, ухапіць лепшы кавалачак ад пірага славы, — тут не патрэбен уласны інтэлект, тут можна не хвалявацца за ўласны культурны ўзровень.

**Але сапраўдныя набыткі культуры ствараюцца сапраўднымі творцамі, якім трымаць адказ не перад чыноўным людам, а перад сваім народам і перад Богам.**

І менавіта ім трэба дапамагаць, з імі трэба не баяцца абмяркоўваць самыя важныя, самыя складаныя жыццёвыя праблемы.

І колькі б хто ні перастрахоўваўся: як бы чаго не выйшла? — выйдзе і пойдзе сваёй хадою жыццё. І калі ва ўсім сыходзіць не ад жыцця, а ад сваёй насцярогі перад ім ці наіўнай спробы неяк перахітрыць яго, нічога вартага не выйдзе. І калі ўжо каму не ў ахвоту да здаровага сэнсу прыслухоўвацца, прыслухоўваліся б да слоў Прэзідэнта, які не стамляецца паўтараць: "неабходна ісці ад жыцця", "разумна, спакойна і без перабораў" "дайсці да душы і свядомасці кожнага".

**Таіса БОНДАР**

---

**Нішто не заменіць мастацкую літаратуру ў выхаванні высокай маральнасці, гуманістычных ідэалаў і самабытнасці. Таму нельга кідаць літаратурны працэс у рэспубліцы ў рынкавыя хвалі. Дзяржава павінна цвёрда вызначыцца, як падтрымліваць літаратурны працэс, як скарыстоўваць яго плынь для выпрацоўкі магутнай энергіі ідэалагічнага ўплыву на грамадства.**

Чакае свайго вырашэння і больш плённая дзяржаўная падтрымка літаратурна-мастацкіх і грамадска-палітычных выданняў, якія стаяць на дзяржаўных пазіцыях, праводзяць у жыццё дзяржаўную палітыку. Сярод гэтых выданняў і выданні РВУ "Літаратура і мастацтва". Здавалася б, што яны павінны прыйсці сягоння ва ўсе дзяржаўныя бібліятэкі, у чытальныя залы бібліятэк усіх навучальных устаноў, шматлікіх прадпрыемстваў і арганізацый. Аднак гэтага пакуль няма. Хто, на якіх дзяржаўных паверхах не разумее важнасці справы, значэння галоўных літаратурна-мастацкіх і грамадска-палітычных выданняў краіны ў ідэалагічным забеспячэнні шырокіх чытацкіх колаў, вялікай гістарычнай місіі гэтых выданняў у фарміраванні і развіцці літаратурна-мастацкага працэсу ў Беларусі?.. Спадзяюся, што вырашэнне гэтага пытання неўзабаве стане адным з пунктаў ідэалагічнай работы ў краіне. У сувязі з паднятай праблемай не магу не закрануць яшчэ аднаго балючага для мяне пытання. 20 гадоў адзінае ў Беларусі спецыялізаванае дзіцячае выдавецтва "Юнацтва", створанае ў свой час намаганнямі П. Машэрава, выпускала літаратуру для дзяцей, актыўна ўплывала на развіццё беларускай дзіцячай літаратуры. Было выдадзена звыш 250 мільёнаў экземпляраў кніг. Многія назаўсёды ўвайшлі ў гісторыю беларускага кнігавыдання і нацыянальнай літаратуры, а "Бібліятэка дзіцячай літаратуры народаў СССР" у 16-ці кнігах была адзначана ў 1996 г. Дзяржаўнай прэміяй. На жаль, на сённяшні дзень "Юнацтва", як самастойная адзінка, не існуее...

**Калі мы не навучым дзетак у садках, у школах шанаваць сваё, роднае слова, чытаць і разумець сваю, беларускую кнігу, то і дарослымі яны не будуць актыўнымі чытачамі роднай літаратуры. І вырастуць пакаленні чужых на сваёй зямлі...**

І хіба будуць здольны яны захаваць суверэннасць дзяржавы? Пра гэта трэба думаць сур'ёзна...

І яшчэ, выпрацоўваючы дзяржаўную ідэалогію, мы, вядома, павінны дбаць аб тым, каб людзі любілі Радзіму, сваю зямлю, людзей, шанавалі і паважалі працу, жылі дзеля прыгажосці і любові. Дзяржаўная ідэалогія павінна навучыць нас усіх любіць сваё, беларускае. Зрабіць гэта можна разумна спалучаючы інтарэсы дзяржавы, чалавека і царквы. Невыпадкова вядомы сучасны фізік Я. Веліхаў скахаў: "XXI стагоддзе павінна быць рэлігійным ці яго зусім не будзе". Рэлігійны аспект у дзяржаўнай ідэалогіі, у выхаванні прыгожага высокадухоўнага чалавека з'яўляецца вельмі важным.




**Міхась ПАЗНЯКОЎ**

# ЗЫХОДЗЯЧЫ З НАШЫХ СЁННЯШНІХ РЭАЛІЙ

На нарадзе з удзелам кіраўніка дзяржавы па праекце Указа Прэзідэнта "Аб сістэме дзяржаўных органаў і іншых арганізацый, якія ажыццяўляюць ідэалагічную работу ў Рэспубліцы Беларусь" адзначана адна з многіх, акалічнасцей, або аспектаў (як хто назаве), не ўсвядоміўшы якую (які) няма сэнсу наогул што абмяркоўваць па гэтай тэме. А менавіта: калі ён спытаў у прысутных, як хто разумее ідэалогію, не ўсе змаглі даць пэўны адказ. Гэта, між іншым, было ўспрынята з заклапочанасцю і разуменнем: праблема кадраў, іншыя



праблемы, якія трэба вырашаць. Вядома, зыходзячы з нашых сённяшніх рэалій... І адразу ж у пэўных колах — з'едлівыя кепікі: калі так, то...

А мне падумалася: а мы, панове, таварышы і інш., і інш., — такія ўжо вялікія спецыялісты ў гэтай справе? Дык чаму ж сілу слова звялі на нет, і ўсё разбураем, разбураем...

Падумалася, таксама не дзеля таго, каб нібы абараніць чыноўнікаў. Ім ні мая, ні чыя іншая "защита" непатрэбна: выдатныя і проста добрыя спецыялісты зусім у іншых галінах народнай гаспадаркі. (Ды і неведанне — не абраза. Ужо сама канстатацыя — надзея на лепшае.) Але, канечне, гуманітарыі маглі б быць і смялейшымі — разгубленасць любому спецыялісту шкодзіць. А яшчэ: калі ўсе мы сапраўды заклапочаны будучым Айчыны, то павінны шмат што зразумець. Можа, першае, што гэта бяда наша агульная – не-ве-да-ем... А што і ведалі, што мелі, дык "бесшабашно" страцілі. Выходзіць, старая справа — ідэалогія — для нас новая. І ў тым сэнсе паўтаруся, што абсалютна новыя жыццёвыя рэаліі, і што новае пакаленне вырасла, дзейнічае. І ў той жа ўладзе. А што не ведаем, бяды няма: калі сапраўды з клопатам, асвядомлена, ды ўсе зацікаўленыя разам, калі ўсё ладам — "опыт дело наживное". Найперш веды, канечне.

**Чаму ў звадках, супрацьстаяннях мы ўсе такія разумныя ды мудрыя не заўважаем, што маладое пакаленне страчвае лепшыя духоўныя здабыткі не толькі беларускага, рускага, а і іншых народаў, якія і сёння, як і спрадвеку, жывуць ладам на нашай зямлі?..**

Што ж датычыць бескампраміснасці кіраўніка ў адносіінах да тых, хто ў розны час быў ім запрошаны ў органы кіравання, ды даў згоду працаваць (не паверу, калі хто скажа, быццам прымусілі), дык сведчанне: ні ў якой дзяржаўнай справе дробязей няма. І яшчэ: найважнейшая тэма абмяркоўваецца адкрыта.

І вывад: так, "неабходнасць ідэалагічнага забеспячэння краіны вынікае з жыццёвых рэалій". Згодны. Думаю, гэта разумеюць сёння многія. І не толькі палітыкі, дзеячы літаратуры і культуры, асветнікі. А і проста грамадзяне сваёй краіны. І я, калі ўжо так, як грамадзянін.

І вось абнадзееены (грамадзянін, падкрэслю, які ўжо не можа зразумець што з намі дзеецца, у якой дзяржаве жывём, якія ў нас прэарытэтныя духоўныя каштоўнасці), што ўрэшце мы надзвычай сур'ёзна задумаліся над СВАЁЙ ідэалогіяй з недаўменнем даведаўся: з гэтага навучальнага года пагаршаецца становішча ў школе з вывучэннем беларускай і рускай літаратур і моў. Кажуць, што нібы "ўдасканаленне" вучэбнага працэсу. А мне не верыцца: якое ўдасканаленне, калі змяншэнне?



І гэта можна ўспрыняць па-рознаму. Скажам, на эмацыянальным узроўні і такім чынам: "Чарговая спроба адлучэння скарбніц народнага духу ад адукацыі". І кажуць. Яшчэ горш: "Да канца абалванім наша будучае, дзяцей..."

Я не спяшаўся б адразу згаджацца ні з першымі ні з другімі: можа, недагляд, пралік тых, хто адказвае за адукацыю. Працуюць жа, а як вядома, не памыляецца той, хто нічога не робіць. Больш таго, асветнікі падказваюць, нібыта бралі мадэль з вопыту іншых, "развітых" краін (нібы мы ні на што не вартыя, і ў нас няма свайго вопыту, і жывём мы чужым жыццём...).

Тады, ну і што, "калі там?". Ды ў іх жа мысленне іншае, нянаскае...

Ладна... Шумяць, мабыць, не без падстаў, што нібыта распрацоўка новых праграм па вывучэнні ў школе такіх СКАРБНІЦ НАРОДНАГА ДУХУ, як БЕЛАРУСКАЯ І РУСКАЯ ЛІТАРАТУРА вялася даўно. Уціхую? "Брехня", газеты пісалі, паўсюль гаварылі. Іншая справа, ці прыслухоўваліся, як след скажам, да настаўнікаў, пісьменнікаў, проста грамадзян, якія хочуць бачыць сваіх дзяцей сапраўды адукаванымі (і па літаратурах таксама) сваіх, а не, скажам, на 75 "ПРОЦЭНТАЎ" адукаваных. Прыслухаецеся, на якіх мовах размаўляюць учарашнія выпускнікі школ, іншых навучальных устаноў; ураджанне такое, што і беларускую і рускую мовы і літаратуры ім цалкам замянілі экзамены "па вымаўленні" на базарных плошчах, ці ў СІЗО). Паглядзіце на "татуіровачны правапіс" на аголеных участках цела ў моладзі, і што найстрашней, у будучых некаторых мам...

Ды шмат што іншага сведчыць: трацім будучыню сваю, дзяцей, як культурных, сапраўды выхаваных людзей... Дык што, будзем і далей высвятляць адносіны, каго запрасілі, каго не запрасілі, хто чакаў, хто пакрыўдзіўся. Ну, ну... Пакуль пры гэтым і іншае высвятляць будзем, дык зусім не заўважым, што ў многіх дзяцей нашых абсалютна чужыя Айчыне погляды, і нямала хто з іх сваю Бацькаўшчыну ўжо не ўспрымае, як такую, для яго на Захадзе (во прапаганда, во ідэалогія дзе) — чалавечы рай...

Не, я не збіраюся, ды і не маю права рабіць асветнікаў ворагамі Бацькаўшчыны. І наўмыснікамі — таксама. Мне баліць іншае: чаму ў звадках, супрацьстаяннях мы ўсе такія разумныя ды мудрыя не заўважаем, што маладое пакаленне страчвае лепшыя духоўныя здабыткі не толькі беларускага, рускага, а і іншых народаў, якія і сёння,як і спрадвеку, жывуць ладам на нашай зямлі?..

...Дык што можа быць далей на самай справе ў грамадстве? Ды ўсе мы ведаем: нямала хто з тых, каму, прабачце, напляваць на рускую і беларускую літаратуру і ў школе і наогул, як, паўтараю, на скарбніцу народнага духу (тут я народы не падзяляю), выкарыстаюць сітуацыю і як неаднойчы было, кінуцца (крыцікі!) набываць сабе палітычныя і іншыя ачкі — шанц які!.. І як таксама не раз было, для адных — клопат, для другіх — балбатня., каб "эхо далеко шло".

Думаецца, у нас ёсць шанц узвысіцца ў свеце (не трэба забываць, што тое месца, якое нам адведзена па факце чалавечага развіцця, калі далёка не апошняе, то зусім і не першае).

**Уладзімір САЛАМАХА**

НАДЗЁННАЕ

# У ДОБРЫ ШЛЯХ, БУДУЧАЕ КРАІНЫ!..

Памятаецца, некалькі гадоў таму, калі была створана першая дзяржаўная камісія па кантролі за прыёмнымі экзаменамі ў ВНУ, колькі на гэта было кпінаў, незычлівых водгукаў, здзекаў у некаторых сродках масавай інфармацыі, маўляў, не дзяржаўная гэта справа.

Да гонару ўсіх тых, хто працаваў у камісіі, на гэты слоўны бруд, не звярнулі ўвагі. Людзі, занятыя справай, разумелі: у той няпростай сітуацыі, якая склалася вакол паступлення ў асобныя ВНУ, нямала хто з таленавітай моладзі, у асноўным з правінцыі, не змогуць стаць студэнтамі. Часам і з тае прычыны, што ва ўмовах так званага рынку, калі шмат дзе грошы пачынаюць засціць розум, калі іх можна займець "дапамагаючы" некаторым бацькам уладкаваць сваіх дзяцей на вучобу, цяжка стала разлічваць на справядлівасць пры паступленні.

**На што і на каго маглі разлічваць сумленныя абітурыенты, іх бацькі, ды і грамадства ў цэлым? Вядома ж, толькі на справядлівасць, як адну з сацыяльных заваёў грамадства мінулага, на шчасце, не страціўшага свайго разумення і сёння, у новай краіне.**

Помніцца, то там, то сям органы ўнутраных спраў выкрывалі факты хабарніцтва з боку некаторых несумленных выкладчыкаў навучальных устаноў, заводзіліся крымінальныя справы. Рэзананс у грамадстве быў не адназначны: у асноўным людзей абурала, што несумленнасць, карупцыя, хабарніцтва дабраліся і да ВНУ і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў. Былі, ды і ёсць, праўда, адзінкі, тых, хто лямантуе: камісія ўмешваецца не ў сваё, органы ўнутраных спраў перавышаюць свае паўнамоцтвы...

Можна было б не звяртаць увагі на апошніх, калі б лямант не меў строга вызначаную накіраванасць: "не перашкаджайце разбураць сацыяльныя ўстоі грамадства, дайце нам права абагачацца незаконным шляхам..."

Але, там, дзе незаконны шлях любога абагачэння, там, вядома, не толькі дзяржаўныя камісіі, а і спецыяльныя праваахоўныя службы, закліканыя змагацца з усім гэтым. І няма нічога дзіўнага, што іх дзеянні падтрымліваюць сотні абітурыентаў і іх бацькі, асабліва тыя, хто не толькі не мае сродкаў, каб "уладкаваць" дзіця, а найперш спадзяюцца на сацыяльную, ды і ўсялякую іншую справядлівасць, якая павінна быць у даным выпадку пры паступленні на вучобу ў дзяржаўныя навучальныя ўстановы.

Тым не менш, тая атмасфера, якая пануе вакол навучальных устаноў апошняе дзесяцігоддзе, па-ранейшаму, не, ды і падштурхоўвае некаторых бацькоў да несумленнасці пры здачы іх чадамі экзаменаў. Некаторыя з іх нават даходзяць да такога абсурду: выкладваюць перад хабарнікамі ад чатырох і болей тысяч долараў, каб дзіця паступіла ў навучальную ўстанову, забываючы, што за гэтыя грошы можна вывучыць яго на платным аддзяленні без усялякага крыміналу, ды здзелкі з уласным сумленнем.

Здзіўляюць, неймаверна здзіўляюць факты, калі, напрыклад, выкладчыкі асобных юрыдычных устаноў краіны, што вучаць студэнтаў прававым адносінам, самі ж, здараецца, ігнаруюць, стаўшы на шлях крыміналу. Дык, як, скажыце, і на такое мы не павінны звяртаць увагі?..

У памяці яшчэ засталіся тыя часы, калі выкладчыкі вышэйшых, сярэдніх і спецыяльных навучальных устаноў, настаўнікі агульнаадукацыйных школ, як кажуць, толькі ў агульных рысах (тэарэтычна) былі знаёмы з нормамі крымінальнага кодэкса. Вось і думаю: дык што, новыя рэаліі жыцця ўзялі верх над розумам, што змаглі ўнесці такія сур'ёзныя, страшныя карэктывы ў псіхалогію асобных выкладчыкаў? І вось вынік, калі так: сёння ў калоніях, сярод тых, хто ўкраў мяшок зерня, адбываюць пакаранне (цяжка паверыць) не толькі некаторыя з простых выкладчыкаў, але нават члены-карэспандэнты акадэмій, кандыдаты навук, дэканы факультэтаў, рэктары, прарэктары па выхаваўчай і вучэбнай рабоце, дацэнты, старшыні і члены прадметных камісій — суд даказаў, што яны бралі хабар. Не хацелася б, каб такія факты, факты нядобрасумленнасці асобных педагогаў, як кажуць, кідалі цень на вялізную армію сапраўды добрасумленных работнікаў Міністэрства адукацыі.

І так, тысячы, дзесяткі тысяч выпускнікоў школ з усіх рэгіёнаў краіны сталі студэнтамі. Калі канкрэтна, толькі у ВНУ паступіла 24502 юнакі і дзяўчаты.

**У іх, іх бацькоў, грамадстве захавана вера ў справядлівасць, надзея. Гэта, вядома ж, архіважна. Асабліва ў сённяшняй сітуацыі, калі дзяржава самым сур'ёзным чынам заклапочана выпрацоўкай сваёй ідэалогіі. Вядома ж, выкладчыкі, педагогі, дзе б яны не працавалі, будуць першымі праваднікамі ў жыццё ўсяго лепшага, напрацаванага грамадствам.**

**Віктар ПАТАПЕНКА**

# НОВАЯ КНІЖКА «СТАРЫХ ВЕРШАЎ»

У бумбамлітаўскай серыі "Другі фронт мастацтваў" з'явілася чарговае выданне. У першай паэтычнай кніжцы, складзенай са "старых вершаў", малады паэт Андрэй Хадановіч спрабуе быць як заўсёды арыгінальным. Гэта намагаецца абгрунтаваць у прадмове да выдання Г. Кісліцына, што ў як не надта атрымліваецца — уплывае феміністычнасць асобы. Тут можна згадаць кнігу "Blonde attack", дзе Кісліцына сцвярджае прыярытэт жанчыны перад мужчынам, прынамсі на глебе крытыкі. Верагодна, гэта адбіваецца і ў напісанні тэкстаў для літаратараў-мужчынаў. Перадусім патрэбная кансультацыя дзядзькі Фройда, бо не хапае канструктыўнай крытыкі. І калі сцвярджаецца, што "паэзію Андрэя Хадановіча з нічым іншым зблытаць немагчыма", міжволі згаджаешся, сапраўды, нельга зблытаць пыласос з самаварам. А чаго вартыя трызненні Хадановіча (верш "Падшпарак-Пачварак"): "Я завуся Падшпарак-Пачварак, // бо паводжу сябе вельмі дрэнна. // Я аматар падступак і сварак. // Не чытайце маралі — дарэмна!" Падобныя трызненні выглядаюць не інтэлектуальнай гульнёй, а зарыфмаваным какецтвам. Таму мараль патрэбная! Андрэю Хадановічу варта было б азнаёміцца з творамі таленавітых папярэднікаў — Раісы Баравіковай, Вольгі Іпатавай і інш.

"Інтэлектуальная гульня" настолькі захоплівае спадара паэта, што ён пачынае ўспрымаць яе сур'ёзна: "У душы руплівага паэта // ёсць напалеонаўскія мэты". У вершы "Руплівец культуры" саркастычны вобраз лірычнага героя гіпербалізаваны да абсурду, ад чаго робіцца незразумелым, жартуе аўтар або спрабуе выдаць свае натуральныя думкі за штучную гульнёвасць.

"...Андрэй Хадановіч выглядае чалавекам, які свядома эміграваў на новую тэрыторыю — тэрыторыю культуры", — піша Кісліцына. На жаль, вышэй згаданая прастора знаходзіцца настолькі далёка ад актуаліяў беларускіх чытачоў, што нельга лічыць эміграцыю Хадановіча станоўчай. Тым больш, калі паэт свядома акрэслівае мяжу паміж сабой і залай гледачоў. У такім выпадку, відаць, ніякія мастацкія выкшталцонасці — класічныя формы верша, загнаныя ў постмадэрнізм — вярнуцца назад не дапамогуць. Філалагічныя выбрыкі ў паэзіі Хадановіча выглядаюць як агонія жывых словаў і адначасна — нараджэнне тэкстаў, толькі фармальна звернутых да масавага спажыўца. Іх унутраная структура "фішак", якія, да таго ж, ёсць не зусім аўтарскай знаходкай (гл. вершы ўкраінскага паэта Аляксандра Ірванца). Калі ж гэтыя "фішкі" не кожнаму дадзена зразумець, творчасць ператвараецца ва утопію, "тэрыторыю культуры" як піша Г. Кісліцына. Крытык заўважае: "Тэксты Хадановіча паводле ўспрымання на чытацкім узроўні бліжэй за ўсё да крыжаванак, дзе два-тры неразгаданыя словы не псуюць настрою, а выклікаюць жаданне зазірнуць у слоўнік". Але ж верш павінен быць эмацыйна завершаным настолькі, каб чытачу ўсё было зразумела без аніякіх энцыклапедый. У іншым выпадку творы будуць асацыявацца ў яго з дрэнна прыгатаванай стравай, у якой шмат складнікаў, што нібыта дапасуюцца адзін да аднаго, але ўжыванне падобнай ежы можа скончыцца атручаннем. Калі лічыць папулярнасць масавым атручаннем, то падобная паэзія мае права на існаванне. Але ж аматары Слова, чытаючы якасны літпрадукт, мусяць аздараўляцца. Для ўжывальнікаў "дрэннай ежы" існуюць японскія крыжаванкі.

У вершы "Шызабары" знайшлася рыфма "сонца — бясконца", якая, відаць, выпадкова туды патрапіла. Магчыма, гэта адзіная праява творчай шчырасці аўтара — усе астатнія хібы ліквідавала філалагічная адукацыя.

Віктар Праўдзін меў рацыю, калі выступаў у прамым эфіры БТ і казаў пра тое, што ў камерцыйным выдавецтве цяпер часцей за ўсё выходзяць творы падазронага мастацкага гатунку... Хаця ў выпадку з Хадановічам — халодная гульня... Дык навошта нам гэтая халадэча? Лепш чытаць вершы Сяргея Законнікава, Алеся Бадака, Навума Гальпяровіча — паэтаў, што пішуць у лепшых традыцыях класічнай беларускай літаратуры.

Уладзімір УСПЕНСКІ

---

Хадановіч А. "Старыя вершы". Мн.: Логвінаў, 2003.



# «ВОЗЕРА РУДАКОВА» МІКОЛЫ КАНДРАТАВА

## 1.

Калі параўноўваюць вершы з кветкамі, а паэтаў — са збіральнікамі букетаў, то хтосьці з паэтаў паводле гэтай (вынайдзенай, дарэчы, не мной) мадэлі, сарве дзве-тры кветкі на адным палетку — і павядзе яго дарога далей, каб сарваць тыя ж дзве-тры кветкі на наступным. А іншага завабіць прыгажосць нейкага адзінага палетка: ён нават і не падумае, што можна пайсці кудысьці яшчэ — "Навошта, калі і тут такая прыгажосць, столькі непадобных адна на адну кветак".

Да ліку тых, хто прытрымліваецца ў сваёй творчасці другой пазіцыі, можна аднесці і паэта Міколу Кандратава, кнігу якога "Возера Рудакова" ў канцы мінулага года выпусціла выдавецтва "Беларускі кнігазбор".

Паэт не выштукоўваецца ў разнастайных формах, не шукае ў адрозненне ад многіх і многіх "новых" якіхсьці незвычайных станаў душы для напісання сваіх твораў. Вершы Міколы, здаецца, узнікаюць ад нейкай унутранай паўнаты. Тыя пачуцці, якія ён перадае праз свае творы, паэт не шукае мэтанакіравана — яны яго знаходзяць самі, як сама сабой пасля доўгай зімы прыходзіць вясна.

Дарэчы, тэма вясны, закаханасці — самая любімая для Міколы Кандратава. Чаму закаханасці, а не кахання? Рэч у тым, што Мікола і не імкнецца пранікнуць ва ўласных творах у глыбіні душы сваіх натхняльніц. Яны, натхняльніцы, ёсць толькі састаўная частка вясны, нейкай узрушанасці душы. Таму — заўжды светла ў вершах-прысвячэннях паэта.

*Нішто дзяцінства не азмрочыць.*
*Нас сцежкі школьныя звялі*
*з дзяўчынай, у якой былі*
*чаромхавыя вочы.*

*Былое сэрцу даражэй.*
*Хай шчасце побач з ёю крочыць!*
*Напэўна, і ў яе дзяцей —*
*чаромхавыя вочы.*

**("Чаромхавыя вочы")**

Аўтар кнігі няспынна вядзе бясслоўную размову з тымі, хто яго натхняе, і таму так часта ў вершах гучаць словы "вочы", "пагляд".

*Што хвіліна, што другая —*
*знічкай прамільгне:*
*я цябе не пакахаю,*
*як і ты мяне.*

*Як вянок з вясновых кветак*
*восенню не звіць,*
*у жыцці кароткім гэтым*
*нам з табой не быць.*

*Толькі позірк нечаканы,*
*толькі сэрца стук*
*нам з табой накіраваны,*
*толькі дотык рук.*

Так, у вясны амаль ніколі не бывае драматызму, яна, нават мінулая, заўжды ўспамінаецца светла. Ды і драматызм у паэзіі — гэта па-за беларускай літаратурнай традыцыяй. Калі ў каго ён і сустракаецца, то з'яўляецца хутчэй выключэннем з правілаў. Каханне ў беларускай традыцыі выступае часцей як замілаванне, захапленне, веснавая ўзрушанасць душы. Іншым разам яно можа быць апранута светлым сумам. Увогуле, для беларускага літаратара (у першую чаргу паэта) каханне — не некіруемая разбуральная страсць, а наадварот — нейкая выратавальная сіла. Яна – як тая кабылка: даверышся ёй — адпусціш лейцы — і яна цябе, нават п'яногa, з любых шляхоў прывязе ва ўласны двор. Так і ў Кандратава, так і ў Сіпакова ("Купалка")... Можа, выключэнне складаюць "Паганскія імпрэсіі" Багданавай, але і там не паказана псіхалагічная напружанасць пачуццяў, праблема выбару — ёсць толькі вынік: адваротны, пачварны бок кахання страснага.

Але вернемся да творчасці Міколы Кандратава. Я невыпадкова загаварыў пра традыцыю, бо яна для паэта — неад'емная частка яго творчасці. Можа, таму ён і не эксперыментуе з формай, а часта карыстаецца ўзорамі старымі, выпрабаванымі часам, такімі, як санет і трыялет. Толькі, на маю думку гэтыя формы для творчасці сучасных паэтаў з'яўляюцца нічым іншым, як пракрустава ложам. Так і ў Міколы: формы санета і трыялета робяць яго творы штучнымі — нешта жывое ў іх адсякаецца і замяняецца нежывым. Іншая справа — традыцыя як духоўная спадкаемнасць у літаратуры, увогуле беларуская літаратурная традыцыя ў шырокім сэнсе гэтага слова. Нельга сказаць, што аўтар кнігі "Возера Рудакова" яе развіў, але ўзбагаціў нейкі яе пласт — несумненна: як у яе межах ён пачуваецца вельмі натуральна. Хоць часам здаецца (зноў жа ўжыву параўнанне): вось усе паэты ходзяць па вуліцах нейкага ўяўнага горада паэзіі ў вопратцы нашага часу, а аўтар кнігі "Возера Рудакова", каб выйсці да іх, апранае цыліндр, бярэ ў рукі кій... Ён хоча быць падобным да іншых паэтаў, быць "не апошнім // сярод няпершых", і не ўсведамляе, не заўважае, што адрозны ад многіх і многіх...

## 2.

Напісаў пра зборнік паэзіі Міколы Кандратава, але адчуваю: не ўсё сказаў, што хацеў. Не сказаў, у прыватнасці, пра будову кнігі. Нават у размяшчэнні вершаў відаць любоў аўтара да традыцыі, часам нават да нейкіх стэрэатыпаў, што склаліся ў нашай літаратуры



# МОЙ КАРАТКЕВІЧ

Нядаўна, парадкуючы свой архіў, я знайшла ў даўняй папцы некалькі забытых аркушаў — свае пераклады з Уладзіміра Караткевіча, зробленыя дзесьці ў першай палове 70-х.

З Валодзем Караткевічам мы вучыліся аднachасова на філалагічным факультэце Кіеўскага універсітэта — я на ўкраінскім, ён на расійскім аддзяленні. Добра памятаю яго хударлявую, але шыракаплечую постаць, яго сімпатычнае хлапчакаватае аблічча. Мы не таварышавалі блізка, але сустракаліся досыць часта, перадусім на канцэртах мастацкай самадзейнасці універсітэта, дзе я грала на фартэпіяна ці акампаніравала сваім галасістым сяброўкам, а ён разам са сваім сябрам палякам Флярыянам Няўважным дэкламаваў вершы (летась з цікавасцю прачытала надрукаваныя ў адным навуковым зборніку наўздзіў змястоўныя і шчырыя лісты Караткевіча да прафесара Аляксандра Назарэўскага).



Потым нашы шляхі разышліся, але я адкрыла яго для сябе як паэта, самабытнага празаіка і кінасцэнарыста. Неяк выпадкова давялося мне пабачыць у адной звязцы з досыць нуднымі дакументальнымі фільмамі яго-ную кароткаметражную паэтычную стужку "Дрэвы". Дыхтоўная апаратарская работа: розныя дрэвы, графічна экспрэсіўныя, у неспадзяваных ракурсах, настраёва самадастатковыя — і цудоўнае паэтычнае суправаджэнне Караткевіча. Дасюль памятаю тую стужку як адно з самых моцных мастацкіх уражанняў. Потым захапілася яго своеасаблівымі "гатычнымі" раманамі ("Дзікае паляванне караля Стаха", "Чорны замак Альшанскі" ды іншымі), дзе дэтэктыўна закручаныя сюжэты разгортваюцца на фоне нацыянальнай мінуўшчыны, а ва ўсім праглядваецца трапяткое замілаванне родным краем. Чытала ўсё гэта ў арыгінале, што ўзмацняла ўражанне. Не ведаю, адкуль у мяне гэтая пяшчотная любоў да беларускай мовы, але чытаць і перакладаць беларускія тэксты — сапраўдная асалода. І вось у адзін з дзён 1973—1974 года ў мае рукі трапіўся зборнік паэзіі Караткевіча "Мая Іліяда", выдадзены ў Мінску ў 1969 годзе.

Тады былі цяжкія часы. Мае найблізкія сябры — Святлічны, Свёрстак, Стус, Чарновіл ды іншыя — апынуліся за кратамі. Вобыскі, розгнага роду рэпрэсіі, атрутныя "клеветоны" ў прэсе, рэгулярныя выклікі на допыты ў КДБ і пастаянная трывога за сяброў, асэнсаванне вышыні іхняга экзістэнцыйнага выбару, гордасць за іх і прагненне — няхай подумкі, хай сабе ў абсягах духу — далучыцца да іх... На такой хвалі і паўсталі пераклады з Караткевічавай "Іліяды", якія, наўздзіў, адпавядалі майму тадышняму душэўнаму стану. Я перакладала іх у асноўным на працы (працавала рэдактарам у выдавецтве "Вища школа"), паміж рэдагаваннем тэкстаў па медыцыне і эканоміцы, пацiху чытала іх сваім сябрам, нават паслала "Баладу плахі" з лістом да сваёй таварышкі Атэні Пашко. Ды, ясная справа, ні пра якую публікацыю перакладаў не магло быць і мовы, і яны так і засталіся ляжаць у старой тэчцы. Прапаную іх сучаснаму чытачу — як своеасаблівую згадку пра нядаўняе мінулае. Дый не толькі ўспамін — мне здаецца, што агульначалавечы патэнцыял гэтых вершаў мае не толькі "архіўнае" значэнне.

Міхайліна КАЦЮБІНСКАЯ
г. Кіеў

***Такая невялікая, але, мяркую, цікавая і змястоўная нататка разам з перакладам пяці вершаў класіка беларускай літаратуры была сёлета надрукавана ў студзеньскім нумары ўкраінскага часопіса "Кур'ер Кривобасу" і аператыўна даслана на Беларусь руплівым беларушчыны з Днепрапятроўска Міколам Чабаном.***

***Калі ўсё больш выразна і велічна праз смугу часу высвечваецца магутная постаць Уладзіміра Караткевіча, асабліва дарагія і кранальныя жывыя сведчанні пра яго, прынамсі тыя, што датычаць жыцця за межамі Бацькаўшчыны, у гэтым выпадку — вучобы і побыту на братняй Украіне.***

***Міхаліна Кацюбінская напісала свае ўражанні сцісла, без усялякага фантазавання — проста, праўдзіва і шчыра. Пра саму ж аўтарку ўспамінаў наўрад хто на Беларусі ці ведаў, але,***

за савецкім часам. Калі гаварыў пра старамоднасць "стылёвай вопраткі" паэта, не адзначыў той факт, што наяўнасць у якой бы там ні было літаратуры пэўнай колькасці паэтаў "не ад сённяшняга дня" не шкодзіць літаратуры, а, наадварот, толькі надае ёй "аб'ёмнасць".

Трэба сказаць яшчэ, што, нягледзячы на шматлікія прысвячэнні жанчынам, адчуваецца нейкая чысціня і цнатлівасць у вершах Кандратава. Многія іншыя ў сваёй творчасці проста абыходзяць такія тэмы (розныя там пагляды і дакрананні рук, што абуджаюць пэўныя пачуцці), але ці абыходзяць гэтыя тэмы іх саміх па-за сферай паэзіі?

І апошняе, што хацелася б адзначыць: усё ж Мікола Кандратаў не прафесіянал ад паэзіі. А гэта і добра і дрэнна. Так, у яго можна сустрэць жывое, нечаканае. Але часам ён, нават і не адчуваючы таго, "прабівае" сферу паэзіі. Напрыклад, у першай страфе верша "Мне і табе, не зусім маладым — // Выйшла спаткацца..." апошнія два радкі гучаць так:

*Хочаш застацца ў вершы маім?*
*Можаш застацца.*

Што з пункту гледжання паэтычнасці, на маю думку, нармальна. Два апошнія радкі другой страфы выглядаюць наступным чынам:

*Хочаш застацца надзеяй маёй?*
*Мусіш застацца.*

Здаецца, не так добра, як у першай страфе, але гэта яшчэ паэзія. А вось у трэцяй, апошняй, страфе і ёсць "прабой":

*Хочаш застацца ў абдымках маіх?*
*Крыкну "застанься!"*

Тут да месца ўспомніць радкі аднаго з класікаў:

*Намацаць рух радка, які ў зачыне,*
*Як шыць туман, ці аблачыну ткаць...*

А ў Міколы атрымалася надта матэрыяльна, занадта ж "у лоб".

**Усевалад ГАРАЧКА**

***няма сумнення, перад намі асоба неардынарная, пацверджаннем чаму могуць быць імёны яе сяброў-знаёмых, якія ў нялёгкія для нацыянальнай ідэі часы словам і справай служылі маці-Украіне, церпячы за сваю адданую і светлую любоў цяжкія ганенні і здзек. Сёння гэта заслужаныя на сваёй Радзіме людзі, іх прозвішчы ведае, бадай, кожны свядомы мільёналікі ўкраінец, не кажучы пра тых, каму яны былі ў пад'ярэмны час, а сяму-таму і да цяпер захраслі косткай у горле. Спадарыню Кацюбінскую ад турмы і лагераў Бог мілаваў, але і застаючыся на волі яна была разам за Украіну засуджанымі...***

***Сімвалічны яе зварот у той трагічна-трывожны час менавіта да паэзіі беларускага аўтара, а таксама выбар для перакладу твораў, якія ўмацоўвалі ў патрыятычнай веры, былі маральным, духоўным апірышчам.***

***Да сказанага аўтаркай згадак і перакладу пра тое, што паэзія У. Караткевіча не засталася ў тым часе, дадам, што і пераклады спадарыні Міхаліны маюць не "архіўнае", а жывое гучанне і значэнне. Зроблены яны прафесійна, з душой, з трапяткім пранікненнем у змест і форму, а таму і вельмі натуральна, нібы так напісаны ў арыгінале, гучаць на пявучай украінскай мове.***

***Між тым творы для перакладу выбраны няпростыя, асабліва гэта датычыць "Балады пра трыццаць першы срэбнік", напісанай нібы на мяжы своеасаблівай споведзі-трызнення пра надзвычай актуальную і балючую для пісьменніка праблему здрады, з найбольш абвостраным успрыманнем здрады блізкіх сяброў. Аднак знешне неўнармаваная архітэктоніка верша наўрад ці магла быць зразумелай і блізкай для ўспрымання ўкраінскага чытача, а таму перакладчыца, удала захаваўшы высокі дух і сэнс балады, зрабіла яе страфічна і рытмічна пакласічнаму ўнармаванай.***

***Выкажам спадзеў, што знаёмства чытача з жывым Караткевічам і не менш жывой і актуальнай, як для беларусаў, так і ўкраінцаў творчасцю знойдзе свой жывы працяг.***

**Яўген ЛЕЦКА**

**ВІНШУЕМ!**

# ДУШУ НЕ АШУКАЕШ

## Уладзіміру КАЗБЕРУКУ — 80

Можна было б пачаць з традыцыйнага: "Не зважаючы на ўзрост..." ці прыкладна так завяршыць гэтае юбілейнае слова. Бо і сапраўды Уладзімір Казбярук працуе сёння вельмі плённа, як і ў гады сваёй творчай маладосці. Аднак рэч у тым, што я збіраўся гаварыць зусім не юбілейнае слова, а хацеў напачатку паразважаць пра новыя кнігі Уладзіміра Міхайлавіча, якія з'явіліся акурат перад ягонай круглай датай.

Атрымліваецца, што і сам юбіляр як бы павіншаваў сябе і адначасова засведчыў, што ёсць яшчэ порах у парахавіцах. Кнігі ж гэтыя былі б за гонар любому даследчыку літаратуры і крытыку. У выдавецтве "Мастацкая літаратура" пабачыў свет навукова-папулярны нарыс У. Казберука "Францішак Скарына", а серыя "Беларускі кнігазбор" папоўнілася аднатомнікам Алеся Гаруна "Выбраныя творы", укладальнікам якога, аўтарам прадмовы і каментарыяў таксама з'яўляецца Уладзімір Міхайлавіч.

Таму і даводзіцца мне адначасова і кнігі новыя рэцэнзаваць і юбілейнае слова прамаўляць. А ў дадзеным выпадку ніяк не абысціся без згадвання вытокаў пісьменніка.

Родная вёска У. Казберука мае традыцыйную і вельмі распаўсюджаную беларускую назву — Бандары. Але тыя Бандары, у якіх будучы даследчык і гісторык літаратуры ўпершыню зірнуў на свет 29 жніўня 1923 года, знаходзяцца не на Случчыне, ці дзе-небудзь у іншым рэгіёне, бліжэй да цэнтра Беларусі, дзе нямала вёсак з падобнай назвай, а на Беласточчыне — сёння гэта Беластоцкае ваяводства ў Польшчы.

Перад вайной У. Казбярук паспеў скончыць сярэднюю школу. У час фашысцкай акупацыі жыў у роднай вёсцы і працаваў на сельскай гаспадарцы, а ў снежні 1944 года разам з маці пераехаў у Мінск, дзе паступіў на філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

Пасля атрымання ў 1949 годзе дыплома аб вышэйшай адукацыі Уладзімір Міхайлавіч працаваў настаўнікам беларускай і рускай мовы і літаратуры ў Любчанскай і Нягевічскай СШ, што на Навагрудчыне. Скончыў аспірантуру Мінскага педагагічнага інстытута, пасля чаго ў 1955 — 1959 гадах быў выкладчыкам Полацкага педагагічнага інстытута, з 1959 года — вучоным сакратаром Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР, а з 1964-га там жа пачаў працаваць старшым навуковым супрацоўнікам.

Яшчэ будучы аспірантам, у 1954 годзе ўпершыню заявіў пра сябе як пра цікавага крытыка, пачаўшы выступаць на старонках рэспубліканскай перыёдыкі. Паступова акрэслілася і кола яго навукова-даследчыцкіх пошукаў, а гэта — новае, удумлівае прачытанне нацыянальнай класікі, а таксама даследаванне праблем беларускага рамантызму, вывучэнне ўзаемасувязяў і ўзаемаўплыву славянскіх літаратур і ў першую чаргу даследаванне беларуска-польскіх творчых кантактаў.

Зварот да нацыянальнай класікі ва Уладзіміра Міхайлавіча пачаўся тады, калі ён выбраў для сябе тэму будучай кандыдацкай дысертацыі — "Творчасць Якуба Коласа дакастрычніцкага перыяду", абароненай у 1963 годзе. Пісалася яна неўзабаве пасля таго, як не стала народнага песняра, а разам з адыходам Коласа ў вечнасць і ўзнікла патрэба па новаму паставіцца да ягонай творчасці. У. Казберуку, тады яшчэ маладому даследчыку, і выпаў гонар зрабіць гэта аднаму з першых і ён паспяхова справіўся перад пастаўленай задачай.

Пазней да творчасці Коласа ён будзе звяртацца неаднойчы, прысвяціўшы ёй і кнігу "Паэма Якуба Коласа "Новая зямля". У святле славянскіх традыцый", што выйшла ў 1979 годзе, пашыраючы сваё даследчыцкае поле, закранаючы кола тых праблем, што яго па-сапраўднаму зацікавілі яшчэ перад гэтым і пазней атрымалі далейшае развіццё. Апроч шматлікіх публікацый у перыёдыцы, калектыўных прац нельга не назваць манаграфіі "Ступені росту. Беларуская літаратура канца XIX ст. і традыцыі польскіх пісьменнікаў" (1974), "Рамантычны пошук. Назіранні над беларускім рамантызмам пачатку XX ст." (1983).

Уладзіміру Міхайлавічу заўсёды ўласціва пачуццё новага, таму невыпадкова ён пастаянна даследуе малавядомыя, а то і зусім невядомыя старонкі гісторыі беларускай літаратуры, адкрывае новыя імёны, у тым ліку і пісьменнікаў, якія, жывучы на Беларусі мусілі пісаць па-польску. Дзякуючы яму, мы па-сапраўднаму адкрылі для сябе і творчасць шмат якіх літаратараў Беласточчыны, што пішуць па-беларуску.



Нарэшце У. Казбярук першым шырока прадставіў сённяшняму пакаленню чытачоў выдатнага беларускага паэта пачатку XX стагоддзя Алеся Гаруна. Свядома, да яго вяртання з небыцця спрычыніліся многія, у тым ліку і народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў, які выступіў на старонках "Литературной газеты" з артыкулам з нагоды 100-годдзя нараджэння Гаруна, але менавіта У. Казбярук даў магчымасць ва ўсёй паўнаце адчуць і зразумець, які гэта быў неардынарны творца.

Засведчыўшы гэта сваімі шматлікімі публікацыямі, Уладзімір Міхайлавіч падрыхтаваў аднатомнік А. Гаруна "Сэрцам пачуты звон", выпушчаны выдавецтвам "Мастацкая літаратура" ў 1991 годзе. Змест гэтай кнігі склалі не толькі паэтычныя творы, а і проза, драматургія, публіцыстыка. У тым жа 1991 годзе серыя "Нашы славутыя землякі", якую выпускала выдавецтва "Навука і тэхніка" і якую пераемнік яго "Беларуская навука" лічыць, відаць, непатрэбнай, папоўнілася нарысам У. Казберука "Светлай волі зычны звон". Гэта дазволіла як прыхільнікам таленту А. Гаруна, так і ўсім, каму неабыякава нацыянальнае прыгожае пісьменства, яшчэ больш упэўніцца, наколькі няпоўным было наша ўяўленне пра беларускую літаратуру без постаці А. Гаруна.

А наколькі гэта капарытная постаць можна ўпэўніцца, прачытаўшы нават пачатак ўступнага артыкула "Пакутлівы шлях і творчыя здабыткі Алеся Гаруна", змешчаны ў ягоных "Выбраных творах": "Алесь Гарун — адзін з найвыдатнейшых — нашых пісьменнікаў пачатку XX стагоддзя. Па таленту ён не ўступае тым, каго мы па праву называем заснавальнікамі сучаснай беларускай літаратуры — Янку Купалу, Якубу Коласу, Максіму Багдановічу, Максіму Гарэцкаму. Толькі лёс яго склаўся надзвычай трагічна: сам ён на працягу цэлых дзесяткаў гадоў быў адарваны ад свайго асяроддзя, ад роднай зямлі. Займацца літаратурнай творчасцю мог толькі ў няволі, а пад канец жыцця — ва ўмовах разбуральнай вайны, іншаземных нашэсцяў, пад уладай акупацыйных рэжымаў. Пры жыцці яго праследавала царскае самаўладства, а пасля смерці — бальшавіцкае. З канца 20-х гадоў беларускі народ, якому Алесь Гарун прысвяціў усё сваё жыццё, не меў права чытаць яго творы, ведаць пра яго заслугі перад роднай зямлёй".

Па-новаму У. Казбярук аналізуе і здзейсненае нашым выдатным першадрукаром. А што да нарыса "Францішак Скарына", дык ён вызначаецца наватарствам, хоць, безумоўна, магчымасці аўтара былі абмежаваны, бо кніга найперш адрасуецца сярэдняму і старэйшаму школьнаму ўзросту, а гэта вымагала ад даследчыка лаканічнасці, даходлівасці ў падачы матэрыялу, а, прымаючы пад увагу ўзровень падрыхтаванасці асноўнай чытацкай аўдыторыі, трэба было імкнуцца і да таго, каб пры падачы пэўных звестак пра жыццё і дзейнасць Скарыны было як найменш разыходжанняў з ацэнкамі іншых навукоўцаў. Асабліва ў гаворцы пра тое, што пакуль належным чынам у ягонай біяграфіі яшчэ не ўстаноўлена.

У гэтым сэнсе У. Казбярук, калі можна так сказаць, годна вытрымаў выпрабаванне. А заадно аргументавана давёў свой пункт гледжання наконт таго, як усё ж трэба зваць Скарыну: Францыскам, а гэты варыянт пакуль найбольш распаўсюджаны ці ўсё ж Францішкам. Адначасова пераканаў, наколькі неабходна прыйсці наконт гэтага да пэўнай высновы: "Тут заканамерна можа ўзнікнуць пытанне: а ці ёсць з-за чаго спрачацца? Ці не ўсё роўна, як мы назавём таго ці іншага чалавека? Адказ тут вельмі просты. Мы сёння пільна сочым за тым, каб не дапусціць нават звычайнай арфаграфічнай памылкі ў якім бы там ні было слове. Баімся напісаць не тую літару або паставіць не там, дзе трэба, коску, хоць ад гэтага як быццам бы нічога не змянілася б. А тут гаворка ідзе не пра звычайную нязначную літару, а пра імя аднаго з найвыдатнейшых дзеячаў ва ўсёй гісторыі нашага народа. Мы змагаемся за тое, каб найбольш дакладна называць гістарычныя факты, падзеі, з'явы, даты, змагаемся за праўду ў іх ацэнцы, за ўважлівыя і беражлівыя адносіны да ўсёй нацыянальнай спадчыны і культуры. Адсюль і наш абавязак — знайсці і аднавіць сапраўднае імя беларускага першадрукара".



Знайсці і аднавіць праўду — гэта па сутнасці крэда не толькі літаратуразнаўчай працы, а ўсяго жыцця Уладзіміра Міхайлавіча, талент якога не абмяжоўваецца толькі накірункамі, пра якія гаварылася вышэй, бо У. Казбярук вядомы і як перакладчык. Але менавіта на даследчыцкай ніве ў яго найбольшыя поспехі. Ды інакш і быць не можа, калі чалавек займаецца тым, да чаго ляжыць ягоная душа, а душу не ашукаеш.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# НЕАФІТ АДРАДЖЭНСКАЙ ІДЭІ

**Гэтак назваў Арсень Ліс аднаго з найбольш папулярных паэтаў былых Крэсаў Усходніх Міхася Машару. Яму ж прысвечана і нядаўна выдадзеная брашура Мікалая Мікуліча "Міхась Машара. Паэзія заходнебеларускага перыяду". Яна прымеркавана да 100-годдзя з дня нараджэння паэта.**

**Прасочваючы творчы шлях М. Машары ад першага зборніка "Малюнкі" (1928) да апошніх "На сонечны бераг!" (1934), "На прадвесні" (1935), "З-пад стрэх саламяных" (1937), — даследчык раскрывае вобразна-тэматычнае багацце, мастацка-выяўленчыя прыёмы, ідэйную скіраванасць і патрыятычны змест твораў. Разам з тым ён правамерна суадносіць гэтыя асаблівасці паэзіі М. Машары "з рэальнай канкрэтыкай падзей і фактаў, з аб'ектыўным станам характэрных праблем і вострых супярэчнасцей заходнебеларускай рэчаіснасці". Глыбокае веданне матэрыялу дае М. Мікулічу магчымасць грунтоўна прааналізаваць лепшыя творы М. Машары і вызначыць "асаблівасці ўнутранай супярэчлівасці, нявыверанасці ідэйна-метадалагічнага грунту, пэўны налёт стыхійнасці эмацыянальна-пачуццёвага настрою і пафасу, урэшце, эстэтычныя няроўнасці ягонай творчасці".**

**Міхася Машару нярэдка называюць самым прадуктыўным тагачасным паэтам. У 30-я гады ён, друкуючы свае вершы і выступаючы ў перыёдыцы, быў адным з найбольш вядомых пісьменнікаў у грамадскім і літаратурным віленскім асяроддзі і сярод чытачоў. Як заўважае М. Мікуліч, папулярнасць паэту прынесла скразная заглыбленасць у праблемы народнага жыцця, "выяўленне актуальных духоўна-грамадскіх супярэчнасцей, узрушанае, поўнае нязгоды і пратэсту слова ў абарону сацыяльных і нацыянальных правоў заходніх беларусаў".**

**Паэзія М. Машары ўяўляецца даволі значнай з'явай у гісторыі заходнебеларускай літаратуры, яна адлюстравала гістарычнае бытаванне і настрой жыхароў краю, паўплывала на фарміраванне іх грамадскага светапогляду.**

**Думаю, брашура М. Мікуліча пра паэта Машару зацікавіць даследчыкаў літаратуры і духоўнага жыцця беларусаў у Крэсах Усходніх, як і ўвогуле нераўнадушных да нацыянальнай гісторыі і культуры чытачоў.**

**Наталля ДЗЯНІСАВА**

М.У. Мікуліч

МІХАСЬ МАШАРА

ПАЭЗІЯ ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАГА ПЕРЫЯДУ





**Павал ЗЬМІТРУК**



•

*І чорныя, і шэрыя дажджы*
*Стаялі,*
*Як сцяна чужога дому...*
*Як помнік*
*Трыадзінаму Другому...*
*Як Доля...*
*Як паэзія Хінжы...*

•

*На чорны наткнутае лес,*
*Дымілася сонца крывава,*
*І неба завейна стагнала,*
*Цямрэла і сыпала снег.*

*А сонца дапаленым кнотам*
*Бяззорна знікала ў імглу.*
*Расплатнай абвогленай ноччу*
*Нябёсы прыйшлі на зямлю.*

*...Дзе век не гучала "люблю"...*

## ПЕРАД ПРЫЙСЦЕМ

*Сягоння я прыйшоў да вас адзін.*
*Найсамы — з горшых, з выклятых — выгнаннік,*
*Руінны Цар астатніх спадзяванак,*
*Якія сам для вас і спарадзіў.*

*Сягоння я прыйшоў да вас ізноў —*
*Спатольна ўбачыць, як над вашым краем*
*Пакутным дымам сонца дагарае,*
*Знікаючы за трунамі дамоў.*

*Ад сёння хай не знае ні адзін, —*
*Ці будзе ваша сонца ў вашым заўтра.*
*Ад сёння будзе ўсё, чаго вы варты,*
*Ад сёння я — Айцец і Дух, і Сын...*

•

**...Забраны дом, забраны сад,**
**Магілы продкаў ля прысад...**
**А. СЫС**

*...І поўз туман — амшараў дух атрутны,*
*І ваўкалак, між дрэў уласны след*
*Злізаўшы, выў, вястуючы пакуты*
*На дом, на двор, на сад, на край, на свет.*

*І рэкі лес пранізвалі расплатна,*
*І мкнулі дальш бліскучыя нажы,*
*Каб рэзаць бераг, дзе стаялі хаты,*
*Ў якіх шчэ нехта спадзяваўся жыць.*

*А хто з людзей каўтнуў амшарны дым —*
*Ці млеў, ці прэч сыходзіў звар'яцелы,*
*І дол зямля выпроствала для целаў —*
*І ваярам, і дзецям, і старым.*

*І гэтак мусіў край сысці дазвання,*
*І ўспанавалы сівер часам скорым*
*На вуснах стыг апошнім ратаваннем —*
*Адно тры словы: "Ойчы наш, Каторы"...*

•

*Аддайце царам царова,*
*Сабакам дайце сабакава,*
*Адно не чапайце Бога, —*
*Ён сам забярэ сваё.*

*Філосафам дайце ўладарства,*
*Каханым дайце бяскрылле,*
*Паэту дайце маўчанне,*
*І забярыце самоту.*

*Відушчаму дайце цемру,*
*Прарокам дайце народы,*
*Ваўку аддайце няволю,*
*А воўчае дайце мне...*

*Усё, што прашу я, — дайце,*
*На хвілю адну, не болей, —*
*І ўбачыце як бязвыйсна*
*Канае ваша зямля...*

*Вазьміце ў кесара мудрасць,*
*Вазьміце ў народа людскасць...*
*Адно не чапайце Бога, —*
*Ён вырачыць сам, што даць.*

•

*Хінжа — гэта горад, адзін з гарадоў, у якім*
*Пакора на тварах даўно называецца шчасцем,*
*Хінжа — гэта сорам, за хлеба кавалак, які*
*З рукі ненавіснай бярэш ты — пагана, а мусіш,*
*Хінжа — гэта Голацк, дзе быў пахаваны Алесь, —*
*Я жыў і не ведаў пра гэта.*
*Хінжа — гэта тое, што дзеяў я ў момант, калі*
*Карстага з Алесем мясцілася глуха аб дол.*
*Хінжа — гэта жменя жалобы, якой не сыпнуў я.*
*Хінжа — гэта ноч, што пяро наталяе крывёй,*
*Каб вершам развіднець балючым, як згустак вянозны.*
*Хінжа — гэта радасць чакання той ночы, якая*
*Ірве маё сэрца, Хінжа — гэта шнары на сэрцы.*
*Хінжа — гэта Край, які ты зненавідзець не можаш,*
*І ты зненавідзіш любоў да абранага Краю.*
*Хінжа — гэта вёска ля Рэчыцы дзесь неўздалёк,*
*Дзе старац-Паэт на кладах далакопам слугуе, —*
*Другі між паэтаў, бо першым назвалі Хрыста,*
*Я ведаю — ён і спаміж грабароў не апошні,*
*Маўклівы, таемны, сівы, як малітва...*
*Хінжжа-а-а...*

## ДВА ГРУГАНЫ

*Я вораг табе і год мой,*
*Год ворага, наступае,*
*І вось я, груган галодны,*
*І бойкі з табой жадаю.*

*Калі ты ўпадзеш бяссілы,*
*І вуснаў сухіх не абліжаш,*
*І стануць дзве пары крылаў*
*Табе прадапошнім крыжам,*

*І крык твой я вып'ю з глоткі,*
*Душы даючы збавенне.*
*О помста! О грэх салодкі!*
*Салодкі аж да ўтрапення.*

*А потым, сыты да змору,*
*Ад паху крыві мяне гадзіць...*
*Не ворагам быў я ўчора —*
*Я сябра, якому ты здрадзіў.*

*Але... мы сарваліся ўгору,*
*Нябёсы крыламі гладзім.*
*Мы поруч, але я твой вораг,*
*Я самы страшны твой вораг —*
*Я сябра, якому ты здрадзіў.*

## САБАКА

*Я ёсць, я дзікі, я сабака,*
*Дакуль я помню, я ім быў.*
*З людзей нікога не любіў,*
*І з іх па мне ніхто б не плакаў, —*

*Калі б канаў я ў старане,*
*Ці, да свайго ўзлунаўшы Бога,*
*Дзяліў і ходную дарогу*
*На да мяне, й пасля мяне.*

*Мой дом цяпер і лес, і поле.*
*Я ёсць, я вольны, я сабака,*
*Я падзяліў з людзямі волю:*
*Мне не любіць, людзям не плакаць...*

•

**...ищу я выход из ворот,**
**но нет его, есть только вход,**
**и ты не тот...**
**У. ВЫСОЦКІ**

*І жыў — не жыў, і паміраў, як жыў,*
*І ўсе вакол жылі, як паміралі,*
*У балядашах свечкі дагаралі,*
*Нябога храмны моўчкі іх тушыў.*

*І жыў — не жыў, і паміраў, як жыў...*
*Вакол, кагось, судзілі і каралі,*
*І цвякаў акрываўленых каралі*
*Ірдзелі на пахіленым крыжы.*

*І жыў — не жыў...*
*Ды й як тут жыць, калі*
*Ёсць выбар толькі між бядой і горам.*
*І розум маю — за яго мне сорам,*
*І сілу маю — мне яна баліць.*



Фота В. МАЙСЮКА

Віктар ПРАЎДЗІН

# ПА ДРОВЫ

## З НОВАЙ КНІГІ «МІЛІЦЫЯНЕР ЗА КАДРАМ»

Ювеналій Юльянавіч Нігурэй вучыў не толькі міліцэйскай справе, але і жыццю. Калі нешта тычылася асабістага, ён дапамагаў шчыра, без усялякіх "ты мне — я табе", быў не толькі дарадцам, але і памочнікам, старэйшым братам.

Жыў я з бацькамі, яны ж гаспадаркі аніякай не трымалі. Праўда, у 1969 годзе, калі пераехалі з саўгаса "Гарадзец" у Шаркаўшчыну, яшчэ тры парсюкі былі (па тым часе сям'ю з пяці чалавек без свайго кавалка мяса было не пракарміць), але нехта звышпільны надрапаў левай рукой ананімку ў райкам партыі. У тым даносе значылася, што камуніст Аляксандр Рыгоравіч Праўдзін "разводзіць свінства звыш усялякіх устаноўленых нарматываў". У райкаме стварылі камісію, і бацьку "раскулачылі", уляпілі вымову і абавязалі ад свіней пазбавіцца. Раззлаваны бацька ў той жа дзень пагрузіў парсюкоў, а дакладней, яшчэ падсвінкаў, у машыну і завёз на мясакамбінат. Даведку аб здачы прадставіў у райкам, і больш нікога, акрамя сабакі і пеўня, у нас не было. (Чаму бацька трымаў пеўня — гэта гісторыя іншая.)

Самай вялікай працай у нашай сям'і была і застаецца нарыхтоўка дроў. Хоць дом і шаснаццацікватэрны, але ацяплення няма. І па сённяшні дзень шчыруюць мілыя майму сэрцу бацькі і вые боты, на галаве — міліцэйская шапка з кукардай.

— Жонка, як на вяселле, прыпасаў адваліла, — убачыўшы мяне, весела трасянуў торбай Юльянавіч. — Яно і зразумела: трэба раскашэліцца, на важную справу ідзём. Засталося толькі адно, — Нігурэй шматзначна кіўнуў на віна-гарэлачны аддзел. — Што возьмем, гарэлку ці віно?

— У віне не той градус, — важна адказаў я і пераканаўча, нават рашуча дадаў: — Лес не горад.

Я ведаў, што мой настаўнік аддае перавагу слабейшаму напою, але ж колькі таго віна трэба! А што, як не хопіць? Куды пабяжым па дабаўку? І рашучасць мая была зразумелай, бо дабаўку прыносіў маладзейшы.

— Можна ўзяць палову таго, палову таго, — спрабуючы знайсці кампраміс, уголас разважаў Нігурэй.

Я адмоўна пахітаў галавой.

— Згодзен, што "ёрш" — кепска, — не знайшоўшы падтрымкі працягваў Нігурэй, і, скоса зірнуўшы на мяне, махнуў рукой: — Няхай будзе па-твойму, і сапраўды, лес ёсць лес!

Атабарыліся мы, як кажуць, па поўнай праграме, і Нігурэй тут жа, каля магазіна, спыніў "МАЗ", які ехаў на Міёры. Я заўсёды здзіўляўся, як лоўка мой настаўнік спыняў патрэбную машыну. Ён не карыстаўся міліцэйскім жэзлам, нават руку не падымаў, а толькі прыпыніцца на ўзбочыне, зірне абгарэлыя бярвенні, маўкліва і непрыязна назіралі за наваколлем і намі, прышэльцамі. У адным месцы з попелу кволым струменьчыкам курыўся шызы дым. Ні тэхнікі, ні людзей не было, наўкол цішыня, якую парушала рытмічнае гыркание рухавікоў машын, што праносіліся па шашы.

Побач з прасекай, трошкі глыбей у лес, убачылі невялікую будыніну. Яна месцілася на вялізных, многа даўжэйшых за яе, трактарных санях, палазамі якім служылі два негабляваныя тоўстыя бервяны.

— Вось і бытоўка, — выбіраючыся з глыбокай каляіны, з палегкай уздыхнуў Юльянавіч і напрасткі пашкандыбаў да хаткі.

— Занадта тут ціха, — у спіну настаўніку гукнуў я. — Мо ў лесарубаў выхадны, а мо на які іншы ўчастак перакінулі?

Нігурэй не адказаў, але прыкметна занерваваўся. Ён мітусліва прыладзіў сваю торбу на зламаную напалам тоўстую галіну, тут жа, пад дрэвам, пакінуў сякеру і ўлегцы шпарчэй, амаль подбегам, кінуўся да высокіх саней. Цяжкавата ўскараскаўшыся на іх, Юльянавіч нагой стукнуў па карчы, што падпіраў дзверыну хаткі, і рашуча ўвайшоў усярэдзіну. Адразу адтуль суседзі, назапашваючы на зіму дровы, брыкет, а хто "круцейшы", той і вугалю расстараецца.

І раптам Нігурэй прапаноўвае мне паехаць у міёрскі лягсас па дровы. Канечне, не за гатовымі, спярша трэба нарыхтаваць, а праз тыдзень-другі вывезці. Маўляў, кум там працуе, і яго-ная брыгада якраз робіць санітарнае прараджэнне лесу блізка ад дарогі на Шаркаўшчыну. Выгада відавочная: ёсць каму дапамагчы і спілаваць, і страляваць.

Перапоўнены гонарам, што Нігурэй пачаў лічыць мяне за роўню, я раніцай, адразу пасля дзяжурства, хутчэй дадому, да бацькі, і слова ў слова пераказаў Нігурэеву прапанову. Бацька спярша не паверыў, бо пра такое раней я нават і не думаў, толькі дапамагаў гатовыя папілаваць, пасекчы ды скласці. Але ж, як кажуць, цяжкі толькі пачатак. Зрэшты, еду не адзін, а з вопытным дрывасекам. І ўсё ж майго імпэту і жадання было недастаткова, каб зняць з бацькавых плячэй пэўны цяжар. Ён добра ведаў, на што я замахнуўся, і прапанаваў дачакацца выхадных, каб паехаць разам.

— Мы з Нігурэем сёння пасля сутачнага дзяжурства, а на выхадныя якраз зноў наша змена, — запярэчыў я і пыхліва дадаў: — У Юльянавіча там усё схоплена, кум за брыгадзіра, дамоўленасць ёсць, людзі і тэхніка чакаюць сёння.

Больш ні ўпрошваць, ні тлумачыць было не трэба. Спрактыкаваны ў гэтых справах бацька даў грошы, а маці пахуткаму сабрала мяне ў дарогу.

— Талаку ж трэба не толькі напаіць, — напіхваючы ў торбу прыпасаў, настаўляла яна. — Ты сам шмат не пі, а еш паболей ды цяжка не падымай... Якое бервяно тоўстае, дык лепш напалам распілаваць, у іх бензапілы, секунда — і гатова.

Ужо на вуліцы дагнаў бацька і сунуў у рукі нешта доўгае, цяжкаватае, закручанае ў анучу і перавязанае вяроўкай.

— Нігурэй тэлефанаваў, нагадаў, каб сякеру ўзяў, галіны абсякаць.

Сустрэліся мы з Юльянавічам каля універсама на вуліцы Чырвонадворскай. У настаўніка ў адной руцэ сякера, навострaнае лязо аж зіхаціць на сонцы, у другой — пузатая чорная торба. Апрануты ў фуфайку, міліцэйскае галіфэ запраўлены ў гумона шафёра, і машына ўжо віскоча тармазамі. Шафёр прачыніць дзверцы і радасна, быццам сустрэў роднага чалавека, спытае: "Куды едзем, камандзір?" Неяк спытаўся ў Юльянавіча пра ягонае "чарадзейства", але настаўнік толькі зарагатаў: "Праслухыш з маё — і цябе запаважаюць..." — "Але ж капітан В. служыць паболей твайго і заўсёды скардзіцца, што без міліцэйскага жэзла ніхто не спыняецца", — не сунімаўся я. "Хто каму служыць!.." — яшчэ гучней засмяяўся Нігурэй.

Той зімой маразы лютавалі яшчэ ў першыя дні сакавіка, а напрыканцы месяца было надзіва цёпла. Снегу на палях амаль не было, спляжаны і ўчарнелы, ён віднеўся толькі ў нізінах, каля рэдкага кустоўя, ды на збочыне абапал дарогі. Гурбы, ссунутыя ўзімку з асфальта, выглядалі рудымі ад пяску, якім пасыпалі дарогу. З машыны мы вылезлі недзе за паўкіламетра ад указальніка на вёску Каўшэлева, і Юльянавіч адразу махнуў рукой на прасеку, дзе, відавочна, вялося прараджэнне лесу.

— Я пазаўчора тут быў, аб усім дамовіўся... Кум павінен чакаць, — каторы раз сказаў Нігурэй і паспешліва пайшоў да прасекі.

— Пра мяне што гаварыў куму? — стараючыся ісці ў нагу, спытаўся я.

— Канечне, гаварыў, — перакінуўшы торбу ў другую руку, ажно дзынкнулі бутэлькі, адказаў Юльянавіч і нечакана спыніўся. — І запомні: выпішам па два-тры кубы, каб ніякае начальства не прычапілася, а возьмем столькі, колькі зможам вывезці. — Калі ўзбіліся на капяістую, выбітую трактарамі дарогу, па якой вывозілі бярвенне з лесу, настаўнік напаўголасу, амаль шэптам, павучаў: — І скажы бацьку, няхай дровы на вуліцы стажком складзе, у стажку сохнуць хутчэй. А лепш мяне клікні, я дапамагу... — Нігурэй балюча піхнуў мяне локцем у бок і, падміргнуўшы, выскаліў вялікія зубы: — Трымайся, братка, мяне, не прападзеш!

Прасека, на якую сцягвалі спілаванае бярвенне, мела такі выгляд, быццам тут толькі што адбыліся нейкія ваенныя дзеянні. Зямля была здратаваная глыбокімі каляінамі, куды ні кінь — свежаспілаваныя пні, вялізныя лаўжы галля, некаторыя з іх спаленыя, і чорна-сівыя горы попелу, з якіх тырчалі



пачуўся шум, нешта бразнулася на падлогу, і ў наступнае імгненне з хаткі выкуліўся расчырванелы, злы Юльянавіч. Ён, нягледзячы на мяне, саскочыў з саней, пагардліва плюнуў пад ногі і зашморгаў абцасамі па снезе.

— Што за народ?!. — лупячы ботам у снежную купіну, мацюкаўся Юльянавіч. — Навокал лес, ніводнай жывой душы — за кожным дрэвам можна прысесці, дык не, абавязкова трэба напаскудзіць там, дзе людзі ядуць! Свае гэтага не зробяць, мо, і сапраўды, перакінулі на іншы ўчастак?

Нігурэй нечакана сцішыўся, зняў шапку і, прыслухоўваючыся, павёў неспакойным позіркам па прасецы, зірнуў на гадзіннік.

— Дванаццаць, а іх ні слыху ні дыху. Але ж кум абяцаў чакаць!

— Калі абяцаў, значыцца прыедзе, — заступіўся я за невядомага мне чалавека.

Мы вярнуліся да шашы, спадзеючыся ўбачыць лесавозы і ад вадзіцеляў даведацца пра лесарубаў. Паўгадзіны чакання вынікаў не далі, ніводнай машыны з бярвеннямі так і не ўбачылі.

— Ён казаў, каб пазначылі дрэвы, якія трэба паваліць, — успомніў кумаў наказ Юльянавіч і ўхапіўся за яго, як за выратавальную саломку. — Так што не будзем губляць час.

А яшчэ праз гадзіну Юльянавіч, усадзіўшы сякеру ў тоўстую сасну, крыкнуў:

— Усё, Віцька, шабаш! Калі нашыя дрэвы паваліць, дроў хопіць на дзесяць гадоў наперад.

— Хопіць дык хопіць, — адгукнуўся я і цюкнуў сякеру ў пень.

У гэты момант заўважылі невялікага росту чалавека гадоў шасцідзесяці, які ішоў па прасецы і цяжка каціў веласіпед, які чапляўся за галлё і купіны. Убачыўшы нас, ён радасна гукнуў:

— Мальцы, дзе ваш начальнік?

Было відавочна, што нас з Нігурэем ён прыняў за лесарубаў.

— Тут усе начальнікі, — кіруючы да веласіпедыста, строга адказаў Юльянавіч.

Убачыўшы магутнага чалавека ў шэрым кіцелі з бліскучымі гузікамі, гэткага ж колеру галіфэ з чырвонымі, хоць і вузкімі, але ж лампасамі, і асабліва міліцэйскую кукарду на шапцы, чалавек разгубіўся, ажно руль веласіпеда выпусціў з рук.

— Мне б начальніка з вусамі, у чорным кажушку, — няўцямна прамармытаў ён. — Абяцаў падмагчы бензапілой...

— А ты, дзед, калі з ім дамаўляўся? — гэтак жа строга спытаўся Нігурэй.

— Сёння раніцай і дамаўляўся.

— Дзе ж яны ўсе падзеліся? — зняўшы шапку і выціраючы далонню спатнелы лоб, памякчэў Нігурэй. — Мы таксама на сёння дамовіліся, прыехалі, а тут нікога.

Зразумеўшы, што і міліцэйскі начальнік тут па асабістай справе, чалавек павесялеў, падняў веласіпед і важна, з годнасцю сказаў:

— Я тры разы дамаўляўся, а прыеду — іх няма. Вось і сёння зранння былі...

— Мо калымяць?

— Усё можа быць, — выцягваючы пачак папярос, згодна кіўнуў чалавек і, спахапіўшыся, што сказаў лішняе, паспешліва дадаў: — Хутчэй, на іншым участку, але звычайны яны тут і зранння, і ў гадзіны чатыры вечара... Так што давядзецца мне яшчэ разок сюды падскочыць.

— Пад'ехаць — яно, канечне, можна, — важна заявіў Нігурэй, — але ж яны будуць занятыя... Нам абяцалі...

— Тады я заўтра, — імгненна пагадзіўся чалавек і, неяк вінавата схіліўшы галаву, папрасіў: — Капя хлопцаў шмат рознага люду аціраецца, дык, калі што якое, я буду ў чарзе за вамі...

— Добра, дзед, — накідваючы на плечы фуфайку, лагодна пагадзіўся Нігурэй.

Чалавек, так і не выцягнуўшы папяросы, зноў засунуў пачак у кішэню, ухапіў веласіпед за раму, развярнуў яго і, спатыкаючыся, паспешліва падаўся да шашы.

Павесялелы Юльянавіч уздыхнуў на поўныя грудзі і, пляснуўшы далонямі па сваім вялікім пузе, прапанаваў:

— Віцька, кульнём па грамульцы ды закусім каўбаскай пальцам пханай. Лес ёсць лес: яшчэ не рабілі, а апетыт разгуляўся.

Непадалёк ад хаткі на санях высіўся пень, вялізны як абхапіць удвух. Скінулі з яго рэшткі снегу і пілавіння — атрымаўся добры стол. Пасля першай чаркі і ашчаднага прыкусу, бо стрэлкі гадзінніка ўжо кульнуліся на трэцюю гадзіну, і вось-вось павінны вярнуцца на "базу" лесарубы, расклалі вогнішча, не шкадуючы, насеклі яловых галінак, з якіх атрымаліся крэслы-ляжанкі, і ў чаканні павялі няспешную гаворку. Незаўважна дапілі бутэльку, і Юльянавіч катэгарычна заявіў: "Хопіць!"

Трэснула галінка. Пачуліся крокі, і мы запозненa ўбачылі незнаёмца, які кіраваў да нас не ад дарогі, а з глыбіні лесу. Ён спыніўся за некалькі крокаў ад вогнішча, паправіў пашарпаную скураную шапку-аблавушку, насцярожаныя вочкі абмацалі спярша Нігурэя, потым мяне.

Юльянавіч расправіў магутныя плечы, дакрануўся пальцамі да кукарды, быццам паказваючы, хто тут галоўны, і адразу, як кажуць, узяў быка за рогі:

— Ты за бензапілой?

— Угу, — шморгнуў носам незнаёмец і палахліва азірнуўся, гатовы ў любы момант задаць лататы.

— Будзеш трэцім, — важна сказаў Юльянавіч і, расшпіліўшы гузікі фуфайкі, запусціў руку ў нагрудны кішэнь кіцеля. Убачыўшы, што незнаёмец зрабіў крок назад і гатовы сіга-

(Заканчэнне на стар. 14—15)

Мастацкую кінастужку "Райскі яблычак", створаную рэжысёрам Раманам Яршовым па сцэнарыі Эміля Брагінскага, прапаноўваюць на суд гледачоў кінамайстры Расіі.

У загарадны Дом прыёму для асабліва важных персон, установу з першакласнымі ўмовамі, скрупулёзна праверанымі кадрамі і даволі спецыфічнымі парадкамі, назначана новая афіцыянтка Ася. Да вялікага здзіўлення дырэктрысы Рымы Пятроўны, прэстыжную пасаду дзяўчына заняла без блату і пратэкцый, як лаўрэат конкурсу прыгажосці буфетных служачых. Усё гэта ў спалучэнні з незалежным характарам новенькай не магло не выклікаць падазрэнняў шматвопытнай Рымы Пятроўны. Асі ўчынілі праверку і яна...

Запамінальныя вобразы ў фільме ствараюць Вольга Спірыдонава, Наталля Гундарава, Алег Янкоўскі, Анатоль Кузняцоў, Яўген Маргуноў, Сяргей Ніканенка, Вольга Волкава.




Фільм "Ахоўнік для дачкі" зняты ў Польшчы. Аўтар сцэнарыя і рэжысёр — Мачэк Слешчыцкі.

Варшаўскаму гангстэру Юзэфу, які робіць кар'еру "легальнага бізнесмена", спатрэбіўся ахоўнік для 16-гадовай дачкі Сары. Здавалася б, яго чалавека жорсткага і падазронага, наўрад ці прывабіць кандыдатура 40-гадовага п'яніцы Леона, які праслужыў некалькі гадоў у спецназе. Але Юзэф умеў разбірацца ў людзях і зразумеў, што Леону даверыцца можна, ён не дае ў крыўду, таго хто знаходзіцца пад яго аховай.

І хто б мог падумаць, што новы *ахоўнік стане палюбоўнікам Сары!..*

У галоўных ролях заняты Багуслаў Лінда, Марэк Перапечка, Агнешка Валадарчык.

У Францыі створана мастацкая кінастужка "Страляючыя зоркі". Яе паставіў рэжысёр Грэхэм Гіт, сцэнарый напісалі Грэхэм Гіт і Эрык Невэ.

Застаўшыся круглым сіратой, Лені рос сярод хіпі, паспяхова засвойваючы нормы і звычаі гэтай экзатычнай часткі грамадства. Асноўным сродкам для існавання ён вельмі рана выбраў гандаль наркотыкамі — занятак, які прывёў 22-гадовага Лені з Лондана ў Парыж і звёў з наркадзялком Жоэлем.

Прапанаваўшы Жоэлю па сходнай цане невялікую партыю какаіна, Лені наўрад ці ведаў, чым скончыцца гэта здзелка...

У карціне здымаліся Мельвіль Пупо, Рамана Барынжэ, Жан-Філіп Экафей.

У кінарэпертуары значыцца таксама і амерыканская мастацкая кінастужка "Сямейны план". Аўтар сцэнарыя — Пол Бернбаум, рэжысёр — Фрэд Гербер.

Падзеі гэтай вясёлай і добрай камедыі "закручаны" вакол горнага лагера "Седона", дзе бавяць лета дзеці з гарадскога дзіцячага дома... Ці правільна, бавілі, пакуль быў жывы ўладальнік лагера Пол Робінс. Пасля яго смерці лагер перайшоў ва ўласнасць пляменніцы Пола Джуліі, і яе не ў меру прадпрымальны жаніх Джэры Шэйз вырашыў ператварыць "Седону" ў фешэнебельны курорт. Замест дзяцей ён запрасіў у горы некалькіх уладальнікаў атэляў, спадзеючыся, што хто-небудзь з іх згодзіцца выкладзіць добрыя грошы за права стаць гаспадаром ужо не лагера "Седона", а курорта "Седона-Шэйз".

Такі чалавек знайшоўся, але знайшліся і людзі, якія вельмі хацелі, каб "Седона" існавала, як і раней, на радасць дырэктару дзіцячага дома Кліфу Хеерберу і яго выхаванцаў. Адным з такіх людзей быў бацька Кліфа Хеербера, чалавек ужо немалады, але поўны энергіі і юнацкага запалу. Бескарыслівa дапамагаючы сыну, ён, дзеля таго каб "вярнуць усмешкі на дзіцячыя твары" быў гатовы на многае, а таксама на невялікую хлусню...

Галоўных герояў іграюць Леслі Нільсан, Джадж Рэйнхольд, Хары Морган, Эддзі Боуз.

Аляксандр БОГДАН,
Канстанцін РАМАНОЎСКІ

ФЕСТЫВАЛІ

***У фестывальныя дні колькасць таленавітых і шчаслівых людзей на адным квадратным метры пастаўскай зямлі значна перабольшвала сусветна дапушчальныя нормы. Туды з'ехаліся прыхільнікі народнай інструментальнай музыкі не толькі з усіх абласцей Беларусі, але і з Летувы, Расіі, Украіны, Славакіі, Польшчы: адзінаццаты раз ладзіўся фэст "Звіняць цымбалы і гармонік".***

# НА ТРОЙЦУ Ў ПАСТАВАХ



Праграма трох фестывальных чэрвеньскіх дзён была вельмі насычаная. Мастацкія калектывы бралі ўдзел у імпрэзах на розных пляцоўках Паставаў: сустрэчы-прэзентацыі, урачыстым адкрыцці, пастаўскім "Балі пад зоркамі", конкурсе выканаўцаў "Хто каго?", выязных канцэртах у гаспадаркі раёна, заключным гала-канцэрце і інш.

Высокую навуковую планку трымала творчая лабараторыя "Народная музычная культура на мяжы тысячагоддзяў", якая традыцыйна праводзіцца ў межах фестывалю і мае на мэце ідэю адраджэння беларускіх народных інструментаў. Гэтым разам яна прысвячалася беларускім цымбалам. У праграме творчай лабараторыі спалучаліся і навукова-інфармацыйная, і канцэртная, і выставачна-дэманстрацыйная часткі. Працавала выстаўка-прэзентацыя беларускіх цымбалаў з калекцыі Пастаўскага музея, прыватных збораў А. Скрабагатчанкі, Д. Ровенскага, У. Грома — усяго каля дваццаці розных па форме корпуса, струнах і нават па колеры унікальных інструментаў. Было нялёгка адшукаць "цымбальнай справы майстроў", якія займаюцца вырабам гэтых цудоўных інструментаў сёння. Выстаўка прадстаўляла "творы", якія належаць таленавітым рукам В. Чыкушкіна з Віцебшчыны, І. Лычкоўскага, Я. Касцюковіча і В. Пратасевіча са сталічнай вобласці, У. і М. Чарняўскіх, А. Жукоўскага, К. Шнітко з Мінска, майстроў Барысаўскай фабрыкі музычных інструментаў. Самыя старэйшыя з прадстаўленых цымбалаў былі выраблены больш як 130 гадоў таму. Спецыялісты і аматары адпаведнай музыкі маглі параўнаць, як з цягам часу змяняўся вонкавы выгляд, а разам з тым і гучанне інструмента.

Канцэртныя выступленні прафесійных калектываў — Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору РБ імя Г. Цітовіча з праграмай духоўнай музыкі ў касцёле, Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра РБ імя І. Жыновіча, Дзяржаўнага ансамбля танца Беларусі ўпрыгожылі фестываль. Да таго ж, яны мелі не толькі мастацка-эстэтычнае, але і выхаваўчае, і важнае педагагічнае значэнне. Для тых, хто асабіста прычынены да гэтага жанру творчасці, — кіраўнікоў і ўдзельнікаў аматарскіх мастацкіх калектываў (такіх, дарэчы, на фестываль прыехала больш за 500 чалавек), непасрэдны кантакт з прафесіяналамі — найлепшая школа. На канцэрце аркестра імя І. Жыновіча паўтысячная зала раённага Дома культуры не магла змясціць усіх прыхільнікаў інструментальнай музыкі. Гледачы былі захопленыя наватарствам мастацкага мыслення, віртуознасцю валодання інструментамі, сыгранасцю калектыву і г.д., і г.д. Парадавала цікавасць пастаўчан да сур'ёзнай інструментальнай музыкі, сфарміраваная на традыцыях Паазер'я і развітая ў многім дзякуючы фестывалю.

•

Як заўсёды, сярод канкурсантаў былі сольныя выканаўцы на дудках, дудах, балалайках, гарманісты, цымбалісты, прыпевачніцы, а таксама народна-інструментальныя аркестры і ансамблі. Удзел у творчым спаборніцтве стаўся для ўсіх сур'ёзным выпрабаваннем, таму што, па-першае, былі тут прадстаўнікі розных "школ" — ад выпускнікоў кансерваторыі (як, напрыклад, маскоўскі квартэт дамрыстак "Рускі капрыз"), музычных вучылішчаў да навучэнцаў агульнаадукацыйных школ з музычных ухілам і непрафесійных музыкантаў. А па-другое, ацэнку выступоўцам давала вельмі кампетэнтнае журы, якое зычліва, ды ўедліва аналізавала ўвасабленне мастацкіх твораў і прафесіяналізм выканаўцаў.

Прыемна адзначыць, што першыя месцы ў конкурсе і званні лаўрэатаў фестывалю атрымалі маладзёжныя ка-



лектывы, якія толькі пачынаюць свой шлях у творчасці. Сярод аркестравых калектываў гэта ўзорны цымбальны аркестр "Першацвет" СШ №13 г. Мінска (мастацкі кіраўнік В. Тульвінскі); сярод ансамбляў — узорны ансамбль народнай музыкі "Пацешкі" Маладзечанскай дзіцячай музычнай школы (м. к. М. Таўгень), юная цымбалістка В. Багданава з Мінска. Адно з ганаровых першых месцаў заваяваў гарманіст М. Саватнееў, які прыехаў на фестываль аж з Камчаткі. Дыпломы 2-й і 3-й ступеняў, а таксама каштоўныя падарункі павезлі з сабой найбольш дастойныя калектывы, сярод якіх ансамблі народнай музыкі "Талака" з Полацка (м. к. В. Малых) і "Явар" з Мазыра (м. к. В. Смоляр), "Гудскі гармонік" з Лідскага раёна (м. к. А. Колышка), інструментальная група ансамбля песні і музыкі "Раніца" з Магілёва (м. к. Л. Хахракова), дзіцячы ансамбль гарманістаў з украінскага горада Жашкаў Чаркаскай вобласці, многія індывідуальныя выканаўцы.

•

Дарэчы, прадстаўнікі замежжа адкрылі беларускаму гледачу новыя далягляды ў адносінах да этнічнай інструментальнай музыкі і культуры наогул. Маладзёжны ансамбль "Койшаван" са Славакіі — выдатны прыклад беражлівага стаўлення да сваёй рэгіянальнай аўтэнтычнай "класікі". Славацкія юнакі і дзяўчаты дэманстравалі спеўныя і інструментальныя творы рэгіёна Шпіса, годна глядзеліся ў рукатворных строях сваёй мясцовасці. Замілавала і такая тонкая дэталь у іх адносінах да свайго сапраўднага мастацтва: паважаючы аўтэнтычныя эстэтычныя каноны, дзяўчынкі не фарбавалі вусны перад выхадам на сцэну, а "зіхацелі" сваёй натуральнай прыгажосцю. Самабытнае мастацтва народа мардвы прадстаўляў фальклорны ансамбль "Пейдзелька" з Самарскай вобласці.

Інструментальна-вакальны гурт з летувіскага горада Купішкіса прадстаўляў зрэз гарадской культуры. Паводле гучання акардэона і духавых інструментаў іх музыка здавалася падобнай да нямецкай, хаця гэта былі апрацаваныя творы літоўскага музычнага фальклору. Просты сцэнічны касцюм нашых суседзяў-гасцей вельмі прыемна кантраставаў з вонкавай стракатасцю беларускіх гуртоў. "Купішкену капэлія" вылучалася высокай культурай паводзінаў і ўменнем зрабіць гледачоў сваімі саўдзельнікамі. Злучыўшы рукі, захопленыя мастацтвам летувіскіх артыстаў, яны ва унісон падпявалі: "Ой-лі, ой-ла".



У выступленнях сямейнага гурта "Забава" з Паўночнай акругі Масквы мяне захапіў феерверк таленту самога кіраўніка. На кожным канцэрце ён раскрываўся з новага, нечаканага боку. Як фокуснік, ён даставаў з торбы незвычайныя па форме гармонікі. Адзін з іх змяшчаўся ў боце, другі — у самавары, трэці быў велічынёй з пачак пячэння. Віртуозны майстар быццам не граў на гармоніках, а "гуляў" з імі. У праграме гэтага міні-калектыву — песні-гульні, песні-танцы, найгрышы, музычныя гульні, конкурсы, віктарыны, імправізацыі на тэму рускай народнай інструментальнай музыкі. Вокамгненна нараджаліся прыпеўкі, што называецца, "на злобу дня". У адной з іх, адрасаванай прэзідэнту фестывалю Т. Стружэцкаму падчас заключнага гала-канцэрта, спявалася: "Нам в России очень нужен вот такой Тадеуш!"

У якасці госця прыехаў сёлета ў Паставы беларускі эстрадны гурт "Прымакі" з Беластоцкага ваяводства Польшчы. І зноў паланілі гледача таленавіта аранжыраванымі ў эстраднай манеры беларускімі народнымі і аўтарскімі творамі. Як самыя знакамітыя "зоркі",

"Прымакі" завяршылі начныя канцэрты на галоўнай плошчы горада. Магія іхняга мастацтва распаўсюдзілася і на моладзь, і на сталую публіку. Простыя запамінальныя мелодыі і словы адразу падхопліваліся, хацелася таньчыць бясконца.

•

Прыхільнікаў цымбальнай музыкі парадавала сустрэча з выдатным спадкаемцам традыцый Пастаўшчыны — фальклорным ансамблем "Паазер'е" (мастацкі кіраўнік А. Собаль). Паглядзеўшы яго разгорнутую канцэртную праграму, спецыялісты адзначылі значны творчы рост заслужанага аматарскага калектыву.

Канцэрт старадаўняй і царкоўнай музыкі ў касцёле, пабудаваным пры канцы XVIII ст., — адметная старонка пастаўскага фестывалю. Пяшчотнае гучанне ў храме драўляных духавых інструментаў падчас выканання ансамблем старадаўняй музыкі "Brevis" СШ № 13 Мінска еўрапейскай класікі, а таксама твораў сучаснага беларускага аўтара І. Мангушава нібы ўзносіла душу. Цымбальныя творы Г. Ермачэнкава ў выкананні мінчанкі В. Прадзед і Л. Рудзінскай з Мазыра ўнеслі ў канцэрт новы каларыт. Праграма духоўнай музыкі хору імя Г. Цітовіча (мастацкі кіраўнік М. Дрынеўскі) фундаментальна завяршыла канцэрт.

Значна ўзбагачалі праграму іншыя цікавыя імпрэзы: касцюміраванае музычна-карнавальнае шэсце з удзелам пастаўскіх прыгажунь, кірмаш народных рамёстваў Паазер'я ў гарадскім парку, наведванне ўдзельнікамі і гасцямі фестывалю памятных мясцін Пастаўшчыны, якое настолькі захапіла экскурсантаў, што заняло часу ўдвая больш за выдаткаваны для гэтага арганізатарамі...

Дадам яшчэ, што паводле арганізацыйна-тэхнічнага забеспячэння фестывалю яму цяжка знайсці роўнага. Досвед і практыка тут спалучыліся са шчырай зацікаўленасцю і адданасцю фестывальнай ідэі мясцовага кіраўніцтва (старшыня Пастаўскага райвыканкама В. Януковіч), работнікаў культуры (загадчык аддзела культуры Н. Булавінцава), рэжысёрска-пастановачнай групы пад кіраўніцтвам П. Гуда, ды і ўсяго арганізацыйнага камітэта.

•

Фестываль пацвердзіў сваю жыццяздольнасць. Ён застаецца сапраўдным стымулам для развіцця народнай інструментальнай музыкі ў нашай краіне, дае штуршок адраджэнню тых ці іншых народных інструментаў, спрыяе ўдасканальванню выканальніцкага майстэрства артыстаў-аматараў і ўрэшце — вызначае нацыянальнае аблічча інструментальнага мастацтва. Дзеля далейшага развіцця належыць спраўджваць новыя праекты, узбагачацца новымі людзьмі, ідэямі, новым іх рэжысёрскім вырашэннем. Думаецца, у рамках фестывалю варта зрабіць канцэптуальнае размежаванне паміж носьбітамі аўтэнтычнага мастацтва і прадстаўнікамі акадэмічнай школы ігры на музычных інструментах, больш увагі аддаваць вывучэнню і захаванню рэгіянальнай інструментальнай творчасці, уздымаць такія яе пласты, як лірніцкая, смыковая, дударская, свецкая, шляхецкая музыка, папулярызаваць разнастайныя кшталты ўласна этнічнай беларускай музыкі, дэманстраваць наватарскія падыходы ў развіцці сучаснага народна-інструментальнага мастацтва.

Час закладаць падмурак новай сустрэчы ў Паставах. Яе неабходнасць, якую ўсведамляюць і арганізатары, і ўдзельнікі, і госці, сапраўды пацвердзіў фестываль. Пра гэта
мадзейны паэт выказаў так:

*На Тройцу ў Паставах звініць зорны баль.*
*Няхай з намі вечна жыве фестываль!*

**Любоў СІВУРАВА**



**КІНО**

***Здараюцца неверагодна ціхія юбілеі. Здаецца, пра тое, што беларускай анімацыі сёлета спаўняецца трыццаць гадоў (першы мультыплікацыйны фільм, зняты на беларускай глебе, быў здадзены 13 верасня 1973 года) ужо ведаюць многія: прынамсі, на працягу чэрвеня на беларускім тэлебачанні былі паказаны лепшыя з нашых мульцікаў, адна з праграм Тэлевізійнага дома кіно была прысвечана юбілею беларускай анімацыі (рэжысёр – І. Волчак), у Саюзе кінематаграфістаў ладзіліся творчыя вечарыны ў гонар вядомых беларускіх аніматараў, увосень у Магілёве адбудзецца чарговы фестываль мультыплікацыйнага кіно "Анімаёўка"... І ўсё ж гэта неверагодна ціхі юбілей. Мо таму, што ў нашых аніматараў насамрэч хапае праблем. Бо не ад шчаслівай жа долі яны з'язджаюць за мяжу, пакідаючы на Радзіме мноства нерэалізаваных праектаў.***

# ВОЖЫКІ Ў ТУМАНЕ



Некалькі гадоў таму ў інтэрв'ю "Беларускай газеце" вядомы беларускі рэжысёр-аніматар В. Цітова расказвала: "Яшчэ ў пачатку 90-х адзін з чыноўнікаў "Беларусьфільма" сказаў: "Гэта не нацыянальны від мастацтва, нам гэта непатрэбна". І сёння ўсе аніматары паціху з'язджаюць – у Амерыку, Расію, Польшчу. Многія сышлі ў камерцыю...У Беларусі вельмі многа таленавітых аніматараў. Яны бадзяюцца па акадэміі, малююць коміксы, будучы абсалютна не запатрабаванымі на "Беларусьфільме". Ніводны з выпускнікоў майго курса не працуе на гэтай студыі. Штосьці там здымаецца, але інертна – як было там заўсёды. Казаць пра нейкі пошук – бо гаворка ідзе пра тое, каб мультфільм стаў падзеяй – такога няма. Сцэнарыі маіх калег, вельмі таленавітых, не прымаюцца"(В. Цітова, напрыклад, на той час марыла зняць мульцік пра апошні дзень мастака Пірасмані – **В.Б.**). Напэўна, зараз не ўсё так безнадзейна: сумесна з расійскімі аніматарамі хутка будзе запушчаны ў вытворчасць прыдуманы намі дзесяць гадоў таму мультсерыял "Рэакцыйнае парася" (яго ўзначаліць беларускі рэжысёр-аніматар А. Пяткевіч). Акрамя гэтага некаторыя з нашых анімацыйных карцін сталі падзеямі: напрыклад, новы мультфільм І. Кадзюковай "Сястра і брат" сёлета быў узнагароджаны прызам на VIII адкрытым расійскім фестывалі анімацыйнага кіно, удзельнічаў як лепшая анімацыйная работа Беларусі на Кінафоруме краін СНД і Балтыі. Аднак у нечым даўняе меркаванне В. Цітовай супадае з цяперашнімі думкамі рэжысёра-аніматара І.Кадзюковай, якая лічыць, што беларуская анімацыя можа загінуць у самым росквіце – у трыццаць гадоў! Бо "Калі раней мы рабілі чатыры стужкі штогод (а мы насамрэч гэта можам), то цяпер толькі два фільмы. Уявіце колькі рэжысёраў, якія цяпер знаходзяцца ў добрай працоўнай форме (а гэта паводле праграмы ТДК — рэжысёры-аніматары Т. Жыткоўская, А. Ленкін, А. Пяткевіч, І. Кадзюкова, А. Турава, В. Казлоў, А. Шэпетаў; мастакі-аніматары Т. Кубліцкая, А. Верашчагін; старэйшы беларускі аператар Ю. Мільтнер) павінны чакаць сваёй чаргі? Мінае вельмі каштоўны для нас час, а нерэалізаванага – яшчэ шмат!"

Дарэчы, анімацыйную прадукцыю "Беларусьфільма" за апошнія два гады я змагла паглядзець падчас адборачных паказаў, якія ладзіліся на кінастудыі арганізатарамі IV Нацыянальнага фестывалю беларускага кіно (распачнецца ў Брэсце ў кастрычніку). На суд кінакрытыкаў былі прадстаўлены чатыры маляваныя і адзін перакладны мультфільмы. Трэба адзначыць, што ўсе ўбачаныя анімацыйныя стужкі былі разлічаны пераважна на ўдумлівую дзіцячую публіку. У дасціпнай, а таксама забаўляльнай форме іх аўтары даводзілі пра вечныя маральныя каштоўнасці. У фільме "Пераацэнка каштоўнасцей" (рэж. Т. Жыткоўская) маленькі хлопчык, які гадуецца ў строгай сям'і, спрабуе жыць згодна сваёй фантазіі, а не пабітай завядзёнцы. Гарэза-выдумляка па-свойму пераацэньвае дарослыя каштоўнасці, паступова ўцягваючы ў дзіцячую гульню сваіх бацькоў. Мульцікі рэжысёраў А. Ленкіна ("Мядзведжая паслуга") і А. Туровіч ("Музыкант-чараўнік") расказвалі аб прыгодах вандроўных беларускіх музыкаў, якія сваім казачным выканаўчым майстэрствам весяляць і людзей, і жывёлаў, і нячысцікаў. Асобна з маляваных стужак выступала работа А. Пяткевіча "Песенька для канарэйкі", якую можна было аднесці да эксперыментальнай, авангарднай работы, бо за галоўнымі персанажамі мульціка – птушкамі – хаваюцца розныя тыпы людзей, адным з якіх даспадобы жыць у гурце, натоўпе, а другім – у адзіноце, адстойваючы сваю праўду. Аднак аппадысменты ў глядзельнай зале выклікала толькі анімацыйная карціна І. Кадзюковай "Сястра і брат", выкананая ў рэдкай для сучаснай анімацыі тэхніцы "перакатка" або плоская марыянетка. Пра творчасць таленавітага рэжысёра-аніматара І. Кадзюковай "ЛіМ" пісаў паўгода таму (глядз. № 51-52, 2002г.). Але мульцік "Сястра і брат" настолькі незвычайны, што хочацца распавесці пра яго больш падрабязна. Вядомую рускую казку "Пра Алёнушку і яе братца Іванушку" І. Кадзюкова распавяла як звычайную жыццёвую гісторыю, якая можа здарыцца з кожным з нас. Напрыклад, вядзьмарка (г. з. нячыстая сіла) у мультфільме мае шмат розных абліччаў і таму спакушае чапавека там, дзе ён нават не чакае: так, Іванушка перад тым, як напіцца зачараванай вады, кажа вядомы цяпер рэкламны слоган "Не дай себе засохнуць!" (у анімацыйных работах І. Кадзюковай заўсёды прысутнічаюць камічныя дэталі). Вядома, у самой ужо назве мульціка "Сястра і брат" затаэвана галоўная ідэя фільма: рэжысёр даводзіць гледачу пра міласэрнасць, дабрыню, узаемадапамогу, якія павінны аваподаць сэрцамі верующых людзей – братоў і сясцёр.




Пасля адборачнага прагляду на кінастудыі я зазірнула ў майстэрню да І. Кадзюковай. (Трэба адзначыць, што ў памяшканнях нашай кінастудыі ўвесь час пануе жудасны холад. У майстэрні, дзе Ірына робіць свае непаўторныя мульцікі становіцца горача толькі тады, калі ў вытворчасць запускаецца новы анімацыйны фільм.) Аглядальніку "ЛіМа" рэжысёр-аніматар І. Кадзюкова распавяла пра многія праблемы, якія сёння хваляюць беларускіх мультыплікатараў.

Напрыклад, зараз аўтарскі працэнт з продажу мульціка стваральнікі атрымліваюць толькі пасля поўнай яго акупляльнасці (раней рэжысёр атрымліваў 7%, а будучы яшчэ і аўтарам сцэнарыя – 14%). "Мы падумалі, што нават пры самым удалым раскладзе момант поўнай акупляльнасці стужкі наступіць толькі праз 30-35 год. Але людзі так доўга не жывуць, -- расказвала Ірына. – Мы спрабавалі даведацца, а навошта ўсё гэта. Аказваецца, для таго, каб стымуляваць нас на стварэнне добрых, якасных твораў мастацтва!?"

Аднак, па словах І. Кадзюковай, пра беларускую школу анімацыйнага кіно цудоўна ведаюць у свеце. (Прынамсі, у галоўным весніку ASIF (Міжнародная арганізацыя дзеячаў анімацыйнага кіно) яна занатавана.) "Мне падаецца, што нават у нашым Міністэрстве культуры не думаюць пра тое, што ёсць беларуская школа анімацыі. Бо я ніколі не чула аб існаванні нейкай мэтанакіраванай палітыкі Мінкульта ў гэтай галіне. Нам дазваляюць ці не дазваляюць, зацвярджаюць ці не зацвярджаюць "адзінкі", часам абсалютна не ведаючы пра стан сучаснай анімацыі, што цяпер увогуле запатрабавана ў свеце". На думку І. Кадзюковай, мультыплікацыйнае кіно – гэта сапраўднае "залатое дно" для нашай краіны. Мульцікі заўсёды акупяцца, калі наладзіць граматную работу па іх продажы. Сёння ж беларускія аніматары па завядзёнцы здымаюць дзесяціхвілінныя мульцікі, у той час, калі ва ўсім свеце прыняты іншы метраж – 13, 26, 52 хвіліны. Па гэтай прычыне нашыя анімацыйныя фільмы амаль не купляюць за мяжой. Увогуле ў сувязі са скарачэннем вытворчасці мультфільмаў, маладыя творцы, якія вучыліся ў акадэміі і былі гатовыя працаваць, сыходзяць са студыі, знаходзячы сабе скарыстанне ў іншых краінах. Сёння ад нас сыходзяць і унікальныя спецыялісты, так званыя "работнікі на працэсах". Нам вельмі неабходна добрае фінансаванне, бо мы з радасцю будзем рабіць і чатыры стужкі штогод". Рэжысёр-аніматар І. Кадзюкова ўпэўнена, што будучыня нашых дзяцей – гэта не жарцік, і яна залежыць якраз ад таго, што юнакі спажываюць з экрана. Таму хацелася б, каб будучыня беларускай анімацыі была ў руках людзей, здольных цалкам вырашаць праблемы айчынных мультыплікатараў.

**В.БАРАБАНШЧЫКАВА**

*НА ЗДЫМКАХ: славуты аператар Ю. МІЛЬТНЕР; кадр з мульфільма "Мядзведжая паслуга".*

# У ПРАСТОРЫ НАТХНЕННЯ І ЧАСУ

Сваё 70-годдзе Віктар Сташчанюк адзначыў мастацкай выставай, яна праходзіла ў Рэспубліканскай галерэі (Палац мастацтваў) сталіцы. Без перабольшання можна сказаць, што ў мастакоўскім асяродку Віктар Сташчанюк — неперайзыдзены майстра гістарычных рэканструкцый. Яго творы даюць магчымасць пабачыць на паперы і ўявіць віртуальна, як выглядалі велічныя помнікі архітэктуры, што зараз у руінах; рэшткі даўніны нашай сталіцы; архітэктурна-пейзажныя комплексы Наваградка, Заслаўя, Полацка.

Шлях мастака ў прафесійнае мастацтва быў няпростым, але паслядоўным і мэтанакіраваным. Ён згадвае, што пачаў маляваць з пяць гадоў, спачатку алоўкамі, а пасля фарбамі, якія ён сам здабываў арыгінальным спосабам. Калі маці прыносіла яму цукеркі, ён размочваў каляровыя абгорткі, атрымліваліся фарбы, якімі карыстаўся. Гэта было не простае захапленне, уласцівае амаль усім у дзіцячым узросце. Пра сур'ёзныя намеры хлопчыка атрымаць мастацкую адукацыю сведчыла ягоная мара паступіць у Мінскую мастацкую вучэльню пасля сямі класаў. Аднак аказалася, што навучэнцы не забяспечваюцца інтэрнатам, а здымаць кватэру ён не мог. Маці не мела такіх сродкаў, каб дапамагчы сыну. І замест мастацкай вучэльні Віктар апынуўся разам са сваімі сябрамі ў Наваградскім гандлёвым тэхнікуме, пасля заканчэння якога мусіў адпрацаваць два гады па спецыяльнасці. А тут падаспеў час ісці ў войска. Захапленне мастацтвам цягам гадоў заставалася як бы на другім плане. Але куды б ні закідваў лёс будучага мастака, ён зацята і ўпарта маляваў. Першую прафесійную падрыхтоўку Віктар атрымаў у Мінскай мастацкай студыі Палаца прафсаюзаў, якую ён наведваў вечарамі на працягу пяці гадоў. Днём працаваў на кандытарскай фабрыцы імя Крупскай, каб зарабіць на жыццё. У 1964 годзе Віктар паступае на вячэрняе аддзяленне Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута, аддзяленне мастацкай керамікі, дзе зноў-такі сумяшчае вучобу з працай. З удзячнасцю прыгадвае сваіх настаўнікаў, сярод якіх такія творцы, як Хаім Ліўшыц, Анатоль Анікейчык, Леў Гуміleўскі. Паспяхова абараняе дыпломную працу, керамічнае пано "Гражына", якое павінна была заняць сваё месца ў Наваградку, дзе праектаваўся новы рэстаран і кафэ. Аднак праект не быў выкананы, а ад дыпломнай працы засталіся толькі фотаздымкі. Доўгі час Віктар Сташчанюк працаваў архітэктарам у праектным інстытуце Белдзіпрагандлю. Па ягоным праекце збудаваны арыгінальны дом у Наваградку. Але гэты перыяд жыцця мастака дарагі і памятны яму тым, што ён прымаў удзел у экспедыцыях па Беларусі. Падчас вандровак зрабіў шмат малюнкаў, якія пазней увасобіліся ў ягоных закончаных творах-рэканструкцыях. Дарэчы, па выніках гэтых вандровак у інстытуце арганізоўваліся выставы, на якіх мастак выстаўляў свае замалёўкі, зробленыя ў розных рэгіёнах: на Палессі, Гродзеншчыне, Віцебшчыне, Магілёўшчыне.

Віктар Сташчанюк — творца шырокага дыяпазону. Ён працуе ў жывапісе, графіцы, дэкаратыўна-ўжытковым мастацтве.

Асобная старонка творчасці — дызайн паштовых канвертаў і марак. У мініяцюрных творах — адметнасць нашага жывёльнага і расліннага свету, нашы святы, танцы, музычныя інструменты, помнікі архітэктуры, выявы дзеячаў гісторыі і культуры Беларусі. Першая марка была выканана да 200-годдзя Яна Чачота, у 1996 годзе. З гэтага і пачалася новая старонка творчасці.

Мастак поўны творчых задум. У бліжэйшы час ён мяркуе зрабіць рэканструкцыю сядзібы Язэпа Драздовіча, працягвае шчыльнае супрацоўніцтва з "Белпоштай" па распрацоўцы марак і канвертаў.

Ірына ЛЯКСЕЕВА












# ФАКТЫ І МІФЫ

## СТАРАЖЫТНАЙ БЕЛАРУСІ

***Доўгі час у расійскай і беларускай гістарыяграфіі панавалі погляды, што дзяржаўны лад у славян Усходняй Еўропы быў утвораны чужынцамі нарманамі, якіх паклікалі да сябе наўгародскія славяне, крывічы і іншыя народы, і "пачаў валодаць усёю ўладаю" князь Рурык, які на думку летапісцаў утварыў дзяржаву.***

**Язэп ЮХО,**
**доктар юрыдычных навук,**
**прафесар БДУ**

Гэты погляд летапісцаў быў падмацаваны акадэмікам А. Шлецэрам. Лічылася, што славяне ў Еўропе з'явіліся не раней VI ст., а сучасная тэрыторыя Беларусі была заселена балтамі. Гэтая канцэпцыя мае распаўсюджванне і ў сучаснай беларускай гістарычнай навуцы. Так, на думку доктара гістарычных навук А. Краўцэвіча з'яўленне славян на Беларусі адносіцца да "трэцяй чвэрці 1 тыс. н.э. Галоўным зместам працэсу быў каланізацыйны рух славян (той іх часткі, якая пазней стала ўсходнімі славянамі) на землі занятыя балтамі... Балта-славянскае ўзаемадзеянне разгортвалася нераўнамерна як у храналагічным, так і ў геаграфічным вымярэнні. Напачатку (ад 6—7 ст.ст. н.э.) яго актыўным участкам было Верхняе Падняпроўе і Падзвінне. Славянізацыя мясцовага балцкага насельніцтва тут была ў асноўным завершана ўжо ў 12—13 ст.ст.". (А. Краўцэвіч. "Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага". Мн. 1998. с.77.)

Такі пункт гледжання, па сутнасці, мала чым адрозніваецца ад поглядаў А. Шлецэра, толькі замест нарманаў з'явіліся балты, а славяне высадзіліся немаведама адкуль толькі ў VI—VII стагоддзях. Хаця дакладна вядома, што ў VI ст. да н.э. на нашай тэрыторыі жылі людзі, якіх старажытны грэчаскі гісторык Герадот называў ***будзінамі*** і ***неўрамі***, цары якіх удзельнічалі ў нарадах са скіфамі, дзе абмяркоўвалі планы вайны з 700-тысячным персідскім войскам.

Вядомы даследчык гісторыі славянскіх народаў П. Шафарык вызначаў, што будзіны і неўры жылі на тэрыторыі сучаснай Валыні і Беларусі, дзе іх размяшчаў і Пталамей, які лічыў, што рака Барысфен, заходні прыток Дняпра, а інакш, Бярэзіна, бярэ пачатак з гары Будзінскай. Імя будзінаў сустракаецца каля ракі Буг на геаграфічнай карце складзенай грэчаскім вучоным Агафадземонам, сучаснікам Пталамея (II ст. н.э.): "Няма сумнення, што вялікі і мнагалюдны народ будзіны займалі калісьці сваімі пабудовамі ўсю сучасную Валынь і Беларусь... Будзіны былі, уласна кажучы, адзін і той жа народ з ***венедамі*** і, такім чынам, адной, і пры тым галоўнай галіною вялікага сербскага пакалення... Будзіны мелі сваю ўласную мову... А такой моваю якраз ёсць мова славянская". (П. Шафарик. "Славянские древности". Т.1. Кн. 1, М., 1848. С. 304—315.)

У сярэдзіне першага тысячагоддзя н.э. з'явілася новае імя для вялікай супольнасці еўрапейскіх народаў — ***славяне***, і новыя імёны для паасобных народаў. Візантыйскі імператар Канстанцін VII Багранародны, а за ім і летапісец Нестар, называў жыхароў старажытнай Беларусі ***драгавітамі***, ***крывічамі***, ***бужанамі***, ***радзімічамі***. На думку П. Шафарыка імя драгавітаў або драгавічоў паходзіць ад мужчынскага асабістага імя Драг. Можна меркаваць, што гэта было імя нейкага выдатнага народнага дзеяча, а затым і ўвесь народ атрымаў імя звязанае з яго дзейнасцю, як гэта здарылася і з іншымі народамі. З імем драгавітаў звязаны і некаторыя назвы гарадоў і вёсак на Беларусі. Напрыклад, горад Драгічын над Бугам (зараз у Польшчы) і Драгічын Брэсцкай вобласці, вёска Драгавіца Капыльскага раёна. Вядома таксама, што частка драгавічоў жывуць у Македоніі, Балгарыі на рацэ Драгавіцэ.

Імя ***крывічы*** або ***крэвічы*** для старажытнай Беларусі ўпершыню сустракаецца ў творах Пталімея пад іем ***карвонаў***. Найбольш верагодна, што імя крывічы (крэвічы) паходзіць ад імя князя Крэва, або ад імя дзеячаў язычкай рэлігіі, першасвяшчэннік якой называўся Крыва-Крывейта, а простыя мясцовыя жрацы і суддзі называліся крэвамі. Так, у грамаце вялікага князя Літоўскага Альгерда ад 1359 г. было запісана, што там, дзе сустракаюцца цяжкасці ў адпраўленні правасуддзя з-за адсутнасці "або адлегласці Кревов" суд павінны вяршыць харужыя. (Дагаворы і граматы як крыніцы беларускага феадальнага права. Мн., 2000. С. 67.)

Заслугоўвае ўвагі меркаванне М. Доўнар-Запольскага, што імёнамі крэвічы і драгавіты абазначаўся адзін і той жа народ: "...для нас будзе ясна, што паўночнаўсходняя частка Беларусі была занята таксама дрыгавічамі, назву якіх літоўцы проста пераклалі на сваю мову і дастасавалі наогул да славян, з якімі яны сутыкнуліся. Тады не трэба будзе шукаць прычын супадзення моўных асаблівасцей у крывічоў і дрыгавічоў, не прыйдзецца перасяляць крывічоў з месца на месца... усе гэтыя звесткі і меркаванні прыводзяць нас да таго вываду, што беларускае племя... спакон веку жыло ўназванай мясцовасці... Ніякія іншыя народы ніколі не займалі гэтай тэрыторыі". (М. Доўнар-Запольскі. Гісторыя Беларусі. Мн., 1994. С. 27—28.)

Нашы продкі на сучаснай тэрыторыі Беларусі мелі сваю тэрыторыю, рэлігію і сваіх рэлігійных настаўнікаў, свой светапогляд, сваю матэрыяльную і духоўную культуру, свае органы грамадскага кіравання, свае асновы маральнага і прававога выхавання. Пра тое, што яны не былі дзікунамі сведчаць наступныя факты. Каля Краснага Сяла Гродзенскай вобласці 3—4 тыс. гадоў таму былі пабудаваны каля 2 тысяч шахтаў і побач існавалі майстэрні, у якіх выраблялі са здабытага ў шахтах крэмня, прылады працы і зброі. Каля Полацка, паблізу возера Янава, выяўлены цэлы каменны комплекс, які нагадвае старажытную астранамічную абсерваторыю. У VII— V ст.ст. да н.э. па ўсёй Беларусі выраблялася жалеза і існавала вытворчасць жалезных прылад працы і зброі, што сведчыць пра існаванне высокакваліфікаваных майстроў сваёй справы. Пра наяўнасць у нашых продкаў мноства гарадоў у сярэдзіне першага тысячагоддзя н.э. сведчыць ананімны Баварскі географ. Пра дзяржаўны лад, што існаваў у нашых продкаў яшчэ да н.э. паведамляў Герадот, а таксама Якімаўскі летапіс. Вядома, што для існавання дзяржавы неабходна мець тэрыторыю, некаторую колькасць людзей, злучнасць гэтых людзей паміж сабой і агульныя дзяржаўныя органы кіравання. Усё гэта мелася ў нашых продкаў. Знакаміты старажытнагрэчаскі філосаф Арыстоцель азначыў, "што дзяржава належыць да таго, што існуе па прыродзе, і што чалавек па прыродзе сваёй ёсць істота палітычная, а той, хто ў сілу свае прыроды, а не з прычыны выпадковых абставін жыве не ў дзяржаве, — або недаразвітая ў маральным сэнсе істота, або звышчалавек". (Аристотель. Соч.: в 4 т. — Т. 4. — М., 1983. С. 378.)

Таму, калі нехта сцвярджае, што беларусы жывуць на чужой зямлі і з'явіліся тут толькі ў VII ст. і да IX ст. не мелі свае дзяржавы, трэба прызнаць вялікай памылкай недасведчаных людзей.

Памылковымі таксама з'яўляюцца паведамленні летапісца Нестара, або перапрацоўшчыкаў яго летапісу, што Наўгародскі князь Уладзімір Святаслававіч у 980 г. захапіў Полацк, забіў полацкага князя Рагвалода, гвалтам ажаніўся з полацкаю князёўнай Рагнедай. Такая трактоўка гэтых падзей супярэчыць гістарычнай праўдзе. Па-першае, да 980 г. Рагнеда і Уладзімір мелі ўжо трох сыноў: Вышаслава, Ізаслава і Яраслава. Па звестках летапісу Яраслаў Мудры памёр у 1054 г., маючы 76 гадоў, што сведчыць аб яго нараджэнні ў 978 г. Вядома таксама, што Рагнеда ад Уладзіміра мела 4-х сыноў і дзве дачкі: старэйшую называлі Прадслава, а імя другой дачкі невядома. Чацвёртым сынам быў Усевалад. Усё гэта сведчыць, што Рагнеда выйшла замуж за Уладзіміра не ў 980 г., а не пазней чым у 975 г. Па-другое, жаніцьба Уладзіміра з Рагнедай мела, у першую чаргу, палітычнае і ваенна-стратэгічнае значэнне, гэтым шлюбам замацоўваўся саюз паміж Ноўгарадам і Полацкай дзяржавай. Таму ў Рагнеды, на той час 15-гадовай дзяўчынкі, ніхто не пытаў яе згоды. Уладзіміру такі шлюб даваў значную дапамогу ў ваеннай сіле, а не вайну з Полацкім княствам. Вядома таксама, што ў паходзе 980 г. на Кіеў у войску Уладзіміра былі палачане і крывічы, а гэта сведчыць, што на той час, паміж ноўгарадцамі і палачанамі не было варожасці, а была згода, замацаваная шлюбным саюзам.

Важнай падзеяй у гісторыі беларускага народа было ўтварэнне Вялікага Княства Літоўскага, што адбылося не на пустым месцы і не вандроўным народам, а людзьмі, што мелі багатую дзяржаўна-палітычную, рэлігійную і культурную еднасць яшчэ з герадотавых будзінскіх, а таксама драгавіцка-крэвіцкіх, славянскіх часоў. З'яднанне ўсіх драгавіцка-крэвіцкіх княстваў у адной дзяржаве пачалося яшчэ пры полацкім князе Усяславе Брачыслававічу (1044—1101) і доўжылася ў XII—XIII ст.ст. Вядома, што ў 1182 г. палачане, дручане і меняне хадзілі да Берасту ваяваць супраць палякаў і драгічынскага князя. Гэты паход сведчыць пра існаванне саюза паміж старажытнымі беларускімі княствамі. На пачатку XIII ст., у сувязі са стратай Полацкам свайго эканамічнага значэння, пасля заснавання на Дзвіне немцамі Рыгіі, унутранага бязладдзя, якое пачалося ў Полацку ў 1217 г., аб'ядноўваючым цэнтрам стала Навагрsuccдскае княства. Асабліва яго значэнне ўзрасло пры князях Міндоўгу і Віцені. Міндоўг знакаміты тым, што, будучы князем Навагрудскім, прыняў у 1251 г. каталіцкую веру і ў 1253 г. атрымаў ад папы Рымскага Інакенція IV каралеўскую карону і стаў называцца каралём Літвы. Памылковай з'яўляецца думка, што "заснавальнікам і першым вялікім князем Вялікага Княства Літоўскага" быў Міндоўг. Па-першае, працэс аб'яднання старажытных беларускіх княстваў у адну дзяржаву пачаўся задоўга да з'яўлення на гістарычнай арэне князя Міндоўга. Гэты працэс доўжыўся некалькі стагоддзяў. Па-другое, у XII—XIII ст.ст. з летапісаў знікае імя народа ***дрыгавічы*** (драгавіты) і з'яўляецца для іх новае імя літва (больш падрабязна пра паходжанне імя літва глядзі: Вітаўт Чаропка. "Гісторыя нашага імя". "ЛіМ". 26.06.1993 і 10.07.1993; Я. Юхо. Імя табе — Беларусь. "ЛіМ". 20.09.2002 і 27.09.2002.) Было вядома, што ліцьвіны з маскавітамі "люди одное веры крастьянское, одного языка и народу Словенского". (Шпилевский П. "Посольство Льва Сапеги в Москву в 1600 году" // Ж.М.Н.П. 1850. ч. XVIII. С. 111.) У XIII ст. княства Навагрудскае стала называцца княствам Літоўскім, а пасля каранацыі Міндоўга, каралеўствам Літва. Вялікім княствам Літоўскім, дзяржава стала называцца пасля далучэння да яе княстваў Берасцейскага, Менскага, Полацкага і іншых беларускіх княстваў пры вялікім князі Віцені, былым князі Полацкім. Калі Віцень пачаў княжыць у Навагрудку, то ён надаў Вялікаму Княству Літоўскаму герб і пячатку ***"рыцер збройный на коне з мечем, еже ныне наричут погоня"***.

Паходжанне Віценя ў розных крыніцах падаецца па-рознаму. Адны пішуць, што ён паходзіць з Жамойці, другія называюць яго сынам вялікага князя Літоўскага Тройдзеня, трэція выводзяць Віценя з роду смаленскіх князёў, чацвёртыя, як М. Без-Карніловіч і А. Кіркор, лічаць яго сынам полацкага князя Гердзеня, унукам Давіда. Т. Нарбут надрукаваў урывак са старажытнага рукапісу 1488 г., у якім гаворыцца, што Віцень нарадзіўся ў 1232 годзе, праславіўся "ў войнах рускіх супраць татараў, быў узяты ў палон, знаходзіўся ў абозе Батыя ў зямлі Куманскай, затым вярнуўся і кіраваў княствам Полацкім, разам са сваім бацькам... Затым на ўсеагульным з'ездзе ў Літве, у Кернаве, пад старшынствам манаха Лаўрэнція, сына Трабуса, Віцень быў выбраны Вялікім князем Літоўскім, памёр забіты ў дарозе маланкаю ў 1315 г. Меў тры жонкі, адну пасля смерці другой: ад першай нарадзіўся Гедзімін у 1257 годзе; з другой — Гважалюты, нарадзіўся ў 1295 г. або ў 1296. Воін. Трэцюю пакінуў бяздзетнай. Літоўскія паны абвясцілі Гедыміна вялікім князем Літоўскім у студзені 1316 г. ...Гедзімін меў таксама тры жонкі: Віду, Ольгу і Еўну, а з імі сем сыноў. Віда была дачка бортніка Відтунда з Куроніі, шведскага паходжання. Ад яе сыны: Монтвід, што азначае Свет Віды, нарадзіўся ў 1276 г. і Нарымунд, што азначае Канец Свету — бо Віда памерла адразу пасля яго нараджэння ў 1277 г. Другой была Вольга, смаленская князёўна, ад яе сыны: Альгерд, што азначае Радасць Вольгі, нарадзіўся ў 1296 г., і Кейстут, што азначае Фартэльнік (Хітрун), нарадзіўся ў 1297 г. Трэцяя Еўна, або Ева, таксама руская князёўна, дачка Івана Усеваладавіча, полацкага княжыча, брата Вольгі — памерлай жонкі Гедзіміна. Ад яе сыны: Любарт, нарадзіўся ў 1299 г., Яўнут, нарадзіўся ў 1301 г. і Карыят, нарадзіўся ў 1306 г." (Т. Narbut. "Dzieje staroz".)

Гэты запіс даволі пераканаўча сведчыць беларускае паходжанне дынастыі вялікіх князёў Літоўскіх Віценявічаў. Ён дапамагае таксама вырашыць і другое спрэчнае пытанне. Кім даводзіцца Віценю Гедзімін — сынам ці братам? Паводле звестак "Хронікі Літоўскай і Жамойцкай", "Хронікі Быхаўца", "Хронікі польскай, літоўскай, жамойцкай і ўсея Русі" Мацея Стрыйкоўскага — Віцень называецца бацькам Гедзіміна. Але ў грамаце рыжскага магістрата да Гедзіміна ад 24 лістапада 1322 г. было запісана "будзьце гатовы заключыць з намі мір і пераміp'е, як Віцень, добрай памяці брат ваш і папярэднік". З чаго робіцца выснова, што ўсе хронікі памыляюцца, а толькі гэтая грамата адпавядае рэчаіснасці. На нашу думку больш заслугоўваюць даверу паведамленні хронік і летапісцаў, што Гедзімін быў сынам Віценя, а напісанне ў грамаце яго братам, можна патлумачыць сярэдневечнай традыцыяй, калі ўсе манархі іменаваліся паміж сабой братамі, або памылкаю аўтара пісьма.

Узвядзенне на пасад Вялікага князя Літоўскага Віценя, па сутнасці, азначала пераўтварэнне Навагрудскага Літоўскага княства ў Вялікае Княства Літоўскае. Пры ім былі закладзены асновы арміі, якая паспяхова абараняла сваю дзяржаўную тэрыторыю ад татараў, крыжакоў і палякаў многія гады, а яго ўнук Альгерд у некалькі разоў павялічыў тэрыторыю дзяржавы.

Складаным з'яўляецца вызначэнне дакладнай даты ўзвядзення Віценя на пасад Вялікага Княства Літоўскага. Па звестках Іпацьеўскага летапісу княжанне Віценя пачалося ў 1278 г., М. Карамзін лічыў, што пачатак княжання Віценя ў Вялікім Княстве Літоўскім адносіцца да 1285 г., А. Кіркор вызначыў дату яго панавання з 1293 г. У Энцыклапедыі гісторыі Беларусі пачатак панавання Віценя ў Вялікім Княстве Літоўскім пазначаны каля 1295 г. На нашу думку, больш верагодна, што трэба пагадзіцца з М. Карамзіным і прызнаць больш верагоднай дату ўступлення Віценя на вялікакняжацкі пасад Вялікага Княства Літоўскага пасля смерці яго бацькі вялікага князя Трайдзеня ў 1282 г. або 1283 г. З нямецкіх хронік вядома, што ў 1289 г. Віцень на чале 8000 конніцы напаў на немцаў, што сведчыць пра яго кіраўніцтва Вялікім Княствам Літоўскім.

Аднаўленне рэчаісных падзей нашай старажытнай гісторыі дае магчымасць адкінуць некаторыя міфы, што пануюць у нашай гістарычнай навуцы, і вярнуць народу яго сапраўдны ўклад у развіццё еўрапейскай культуры.



*НА ЗДЫМКУ: малюнак В. СТАШЧЫНЮКА "Прыняцце Міндоўга на княжанне ў Новагародку".*

дзяўчынай, ажаніўся, пайшлі дзеткі, і жаданне вяртацца на Украіну паступова знікла. Праўда, бацькі заўсёды імкнуліся перацягнуць нас да сябе.

**— Ваша першае працоўнае месца?**

— Па размеркаванні я трапіў у Нацыянальную бібліятэку Беларусі. Тады хлопцаў не дужа ахвотна бралі на працу ў бібліятэку, але тагачасны дырэктар усё ж узяў на сябе такую смеласць. Працаваў я там з 1 жніўня да 1 лістапада 1983 года на пасадзе бібліятэкара. Затым пайшоў служыць у войска, быў ракетчыкам. Пасля войска вярнуўся ў Нацыянальную бібліятэку, цяпер ужо ў аддзел камплектавання. "Даслужыўся" да старшага бібліятэкара і вырашыў, што мне трэба вучыцца далей. Пачаў займацца навукай. Захацеў паступіць у аспірантуру, але для гэтага неабходна было мець накірунак ад навучальнай установы. Таму я перайшоў на пасаду звычайнага бібліятэкара ў Мінскі інстытут культуры. Працаваў там на розных пасадах больш за два гады — быў бібліятэкарам у кнігасховішчы, метадыстам, загадчыкам аддзела камплектавання... Адначасова працягваў весці навуковыя доследы, выкладаў. У 1988 годзе я, нарэшце, паступіў у аспірантуру Маскоўскага інстытута культуры.

**— Вы абаранілі кандыдацкую?**

— У 1991 годзе, датэрмінова. Мяне вельмі падтрымаў мой навуковы кіраўнік, прафесар Сталяроў. А далей, калі я вярнуўся ў родны інстытут, усё адбывалася ўжо проста: выкладчык, старшы выкладчык, дацэнт. Працягваў навуковую дзейнасць. У сакавіку 1998 года быў прызначаны дэканам факультэта бібліятэчна-інфармацыйных сістэм. Дэканам я працаваў 5 гадоў. Абараніў доктарскую.

**— А потым вас запрасілі на пасаду дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі?**

— Скажу адразу, што згадзіўся я на гэта нялёгка. Прапанова для мяне была нечаканай. Я разумеў, што бяру на сябе велізарную адказнасць. Доўга думаў, вагаўся (якраз абараніў доктарскую). У БДУ культуры мяне чакала больш спакойная праца. Там я, напэўна, напісаў бы і выдаў яшчэ некалькі падручнікаў і манаграфій... Ведаў бы, што мяне чакае на шмат гадоў наперад. І замест гэтага я вырашыў, як кажуць, пачаць сваё жыццё спачатку. Але, сапраўды, чалавек павінен у жыцці нарадзіць сына, пасадзіць дрэва і пабудаваць дом. Сын у мяне ўжо дарослы, дрэваў за гэты час я насадзіў шмат, а вось нешта пабудаваць... (Між іншым, дзед мой быў будаўнічым майстрам.) Трэба было ўзяць на сябе велізарную адказнасць. Я вырашыў зрабіць гэта: прыняць удзел у будаўніцтве Нацыянальнай бібліятэкі.

**— Фонд Нацыянальнай бібліятэкі — ці не страціць ён нешта ў выніку свайго пераезду на новае "месца жыхарства"?**

— Пераезд бібліятэкі — складаны тэхналагічны працэс. Не так даўно Дырэкцыя бібліятэкі і Дырэкцыя па будаўніцтву разам абмяркоўвалі гэтую праблему. Распрацоўваецца тэхналогія пераезду, дзеля таго каб забяспечыць захаванасць фонду. Прадугледжваюцца праверка фондаў, іх упакоўванне, санітарна-гігіенічная апрацоўка, прымацаванне да выданняў штрых-кодаў і кодаў ахоўнай сістэмы. У памяшканні новай бібліятэкі ўсе выданні будуць праходзіць этапы залічэння (на падставе дакументаў) і дадатковай апрацоўкі. Наш фонд у выніку пераезду стане больш арганізаваным.

**— Самі вы неяк удзельнічаеце ў будаўніцтве?**

— Сустракаюся з архітэктарамі, тэхнолагамі, удзельнічаю ў распрацоўцы тэхналогій новай бібліятэкі. Уся дырэкцыя, супрацоўнікі бібліятэкі прымаюць у гэтым непасрэдны ўдзел. Суботнік 19 красавіка правеў на будаўнічай пляцоўцы новага будынка.

**— Ці маеце вы "напалеонаўскія" планы?**

— Хачу зрабіць лепшую ў Еўропе Нацыянальную бібліятэку. На меншае мы не згаджаемся. Усё наша грамадства працуе над гэтым. Бібліятэка — духоўная скарбніца народа. Толькі агульнымі намаганнямі можна дасягнуць агульнай мэты.

**Гутарыла Святлана САЧАНКА**

**ПАМЯЦЬ**

**Гэтымі днямі шмат гаворыцца пра настаўнікаў. Колькі высокіх слоў, шчырай удзячнасці заслугоўвае сапраўдны Настаўнік!**

# ТОЕ, ШТО ДУШУ АЗАРЫЛА ДА ДНА...



Ніна Іванаўна Гілевіч, кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры беларускай мовы БДУ, таксама пачула б сёння такія словы на свой адрас. Як сумна казаць пра гэта ў мінулым часе. Сорак дзён, як Ніна Іванаўна пайшла з жыцця. А калі гэтая светлая,узнёслая жанчына заходзіла ў аўдыторыю — колькі жыццёвай энергіі было ў ёй, як умела яна зацікавіць аўдыторыю, прымусіць студэнтаў услухацца ў жыццядайную мелодыку старадаўніх слоў роднай мовы!

Сярод яе вучняў былі многія з тых, хто сёння таксама шчыруе на ніве роднай літаратуры і мовы. Я ганаруся тым, што таксама была сярод студэнтаў Ніны Іванаўны, таксама маю права падзякаваць ёй сёння як настаўніку.

Уся гісторыя чалавецтва — гэта спробы застацца ў памяці, пакінуць па сабе след.

Хіба не для гэтага будуюцца маўзалеі і ствараюцца імперыі?

Але пакінутае на зямлі пераўтвараецца ў тло — разбураюцца імперыі, рассыпаюцца ўзведзеныя на вякі піраміды...

Затое дасюль мы ўяўляем аблічча жанчын, якіх апісвалі ў сваіх творах закаханыя паэты Старажытнай Грэцыі і Рыма, Сярэднявечча і Адраджэння...

Вобраз Ніны Іванаўны назаўсёды застаўся ў вершах, прысвечаных ёй народным паэтам Беларусі, яе мужам Нілам Гілевічам. Паўвека побач з паэтам, паўвека духоўнай еднасці, сяброўства і — кахання...

Незадоўга да смерці Ніна Іванаўна атрымала ад мужа падарунак — кнігу "І плямы на табе няма", у якую ўвашлі вершы, прысвечаныя ёй. Паэт назваў сваю кнігу "Лірычны раман". Ствараўся гэты раман з 1953 па 2003 год. Чытач можа прасачыць развіццё светлага пачуцця герояў — ад таго моманту, калі ўпершыню пазнаёміліся два студэнты філфака — малады ўзнёслы паэт і дзяўчына-прыгажуня з Віцебшчыны, да апошніх сумесных дзён, калі ўсё гэтак жа зырка гарэла іх узаемнае пачуццё, калі ўсё гэтак жа яднала іх агульная, ахвярная любоў да Беларусі.

Ніна Іванаўна Гілевіч — муза паэта, жонка, маці, настаўніца, філолаг — пражыла годнае, цікавае, змястоўнае жыццё. "І плямы на табе няма" — засведчыў Паэт.

Таму сёння аддадзім належнае памяці гэтай цудоўнай жанчыны. Пахавана Ніна Іванаўна на Кальварыйскіх могілках, там, дзе магілы паэта Янкі Лучыны, мастака Яна Дамеля, дзе таксама нядаўна спачыў Вячаслаў Адамчык. Думаецца, што да гэтых магіл ніколі не перастануць прыходзіць людзі — не толькі сваякі і знаёмыя, а ўсе тыя, каму дарагая беларуская гісторыя, беларуская культура. І, напэўна, неаднойчы над магілай Музы паэта прагучаць радкі, прысвечаныя ёй, у якіх яна — назаўсёды жывая, маладая, прыгожая і каханая.

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ**

**Ніл ГІЛЕВІЧ**

•

*Ніякі рахунак, ніякі разлік*
*Ужо мне не страшны: я збыўся, Айчына.*
*Я марна не згінуў, бясследна не знік.*
*Мяне для цябе ўратавала Жанчына.*

*Ты кажаш, быў варты я лёсу свайго?*
*Не знаю... Магчыма... Магчыма...*
*Магчыма...*
*А ўспомню — і жах працінае ўсяго:*
*Даўно ўжо прапаў бы,*
*калі б не Жанчына.*

---

чуць не толькі стук сякеры, але і ўзвінчанае віскатанне бензапілы, людскую гаману. Але, акрамя "тук-тук-тук", шуму ветру ў кронах дрэў ды натужлівага рыпення ствалоў, нічога не пачуў. Рыўком сеў, агледзеўся. Насупраць, як дзік на начной ляжанцы, высілася вялікае цела майго настаўніка. Убачыўшы пад яго галавой абедзве пустыя торбы, я сумна ўздыхнуў, прыгадаўшы, як вырашалі, піць ці не піць апошнюю кумаву апахмельную пляшку гарэлкі. Выпілі. Цяпер хоць бы якой вады, але ж дзе знойдзеш у лесе?

Смалякі ў вогнішчы яшчэ курэлі, слабы вятрыска, здавалася, апошнім намаганнем трымаў некалькі вугельчыкаў чырвонымі. На прасецы і каля нас нікога не было, толькі з глыбіні лесу чулася "тук-тук". Зашавяліўся і Юльянавіч. Ён павольна прыўзняўся на руках, сеў і толькі пасля гэтага расплюшчыў вочы. Убачыў мяне, зноў звёў вейкі і, пацягнуўшыся, прахрыпеў:

— Ну, мы з табой і далі!

— Што далі, то далі, — гэткім жа прастуджаным сасмяглым голасам адказаў я.

Нігурэй паглядзеў на гадзіннік, няспешна прыклаў яго да вуха і, здзіўлена агледзеўшы прасеку, абурана рыкнуў:

— А ў майго кума аніякай працоўнай дысцыпліны, бач, і сёння няма!

Ён, нарэшце, звярнуў увагу на стук сякеры і, страсянуўшы галавой, ссунуў бровы да пераносся:

— А там што за дзяцел?

Нігурэй падхапіўся на ногі, зрабіў некалькі прысяданняў, знайшоў больш-менш чыстую купіну снегу і, хапаючы яго прыгаршчамі, пачаў расціраць твар і шыю.

— Рабі, як я, — прабурчэў ён. — У нас справа ёсць, па нашай службе... Адчуваю, незаконна лес сякуць.

— Дамоў нам трэба, — адмахнуўся я, — толькі што бацьку сказаць?

— Я сам Рыгоравічу патэлефаную, — выціраючы твар крысом кіцеля, паабяцаў Нігурэй. — Скажу, што дровы нарыхтавалі, але з вывазам нявыкрутка. А праз тыдзень-другі справу ўладзім, вунь колькі лесу наўкол... Затое як адпачылі!

Юльянавіч зноў зрабіў некалькі прысяданняў і, прыслухоўваючыся, сцішыўся. На расчырванелым твары і асабліва ў валасах, кранутых белым павуціннем, блішчэлі кроплі вады і парушынкі нерасталага снегу.

— Во шчыруе, во дае, — папраўляючы на шапцы кукарду, сказаў ён. — Але зараз праверым, ці мае гэты дзяцел дазвол... Чуе мой нос апахмелку!

Нам пашэнціла і не пашэнціла. Не пашэнціла, бо не было ніякай недазволенай вырубкі. Чалавек на балоце сек кусты на мётлы. Нігурэевы спадзяванні на дармавую апахмелку не спраўдзіліся. А пашэнціла, бо гэтым чалавекам аказаўся Недзвэдзь, якога мы ведалі, і жыў ён у Шаркаўшчыне. Побач з нарыхтоўшчыкам храбусцеў, жуючы пахучае сена, буланы конь, запрэжаны ў падводу на гумавых колах.

Пасля бяссоннай ночы выгляд у нас быў неважнецкі, і выходзіць у такім стане на шашу Нігурэй не рызыкнуў. Дый навошта, калі, ускінуўшы на падводу ссечаныя кусты, хапіла месца і нам, няўдалым дрывасекам.

Юльянавіч слова стрымаў, запэўніў майго бацьку, што асноўнае зроблена і засталося толькі страляваць бярвенні бліжэй да дарогі і вывезці. Толькі ў лес мы з ім больш так і не выбраліся. Кумаву брыгаду перакінулі некуды ажно пад Друю, а я паехаў вучыцца ў Мінск.

Больш за дваццаць пяць гадоў мінула з той пары, мой настаўнік даўно пенсіянер, але пры сустрэчы з ім бацька заўсёды спытаецца:

— Нігурэй, калі прывязеш дровы, якія нарыхтаваў з Віцькам?

У Нігурэя таксама адзін адказ:

— Рыгоравіч, давай лепш па чарцы...

# «НЕ ЗГУБІЦЬ. ЗБЕРАГЧЫ...»

Даўно ведама, што ў Беларусі паэтаў не лічана. Хто беларус, той і паэт. Астатнія — графаманы. Ды вось бяда, беларусаў тых штораз менее... Над вялікімі нябожчыкамі яшчэ паплачам, а над меншымі й слязы не ўронім; труну вынесці калег не знайсці. Асабліва ў сталіцы. У правінцыі, вядома, людзей больш. Але і там кола родных радзее...

Памёр і Бутрым Венанцы...

Бутрым — Багрым — такая алітэрацыя ў прозвішчах магчыма толькі пад Баранавічамі. Першы — Паўлюк — мастак у кавальскай справе, другі — Венанцы — мастак-афарміцель. Абодва — паэты. Дарма, што пісалі мала, а ўсё ж сваё пакінулі...

Той, каторы Бутрым, нарадзіўшыся ў Баранавічах у 1936 годзе, ужо змог займець, як тэхнічную, так і мастацкую адукацыю. У лапцях не хадзіў, але вершы таксама прыхоўваў... Толькі ў 35 гадоў дэбютаваў у "Маладосці". А першы зборнік "У барвах зямлі" выдаў ажно праз трыццаць гадоў — у 2001-м. Другой жа сваёй паэтычнай кніжкі, якая рыхтуецца да выхаду ў свет, і ўвогуле не дачакаўся...

Не быў ён і сябрам пісьменніцкай суполкі. Проста сябрам быў. Тым нямногім, каму давяраўся. У апошнім лісце да мяне напрыканцы чэрвеня пісаў нібы прадчуваючы: "...нешта шматслоўны я сёння, рэдка такое здараецца, ды "сто гадоў адзіноты" няўмольна робіць сваё, абставіны няўступліва падштурхоўваюць выгаварыцца... Кніжка, вядома, неўзабаве будзе... А што буду рабіць з іншым даробкам — падумаю восенню, пазней, калі дажыву..."

Дажыў да нашай жальбы і самоты... Ды й восень ужо... Думаць пара. І пра тое, што ён не дадумаў — таксама.

*І цямней, і цямней. І пара*
*на дабранач сказаць тыя словы,*
*каб спакойна заснула трава,*
*і дзіванны схілілі галовы.*
*Нібы голас дзяцінства — ледзь чутны,*
*нібы пах несабранага мёду!*
*І зліліся харалам магутным*
*дні: калыскі, жніва, адыходу...*
*Прыйдзе час — ўсё патоне ў начы.*
*Данясці. Не згубіць. Зберагчы.*

Бывай, Венанцы... Мы помнім.

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

**КІНО**

***З 25 жніўня на экранах мінскіх кінатэатраў пачаў дэманстравацца адзін з самых нашумелых і доўгачаканых амерыканскіх фільмаў — "Матрыца: перазагрузка". Новы камерцыйны праект рэжысёраў братоў Вачоўскі сёлета быў прадстаўлены па-за конкурсам Канскага фестывалю і за першыя месяцы паказу сабраў звыш 50 млн. долараў.***



# НА ПАЧАТКУ БЫЛА... МАТРЫЦА?!

Трэба адзначыць, што пасля выхаду першай "Матрыцы" ў незвычайнай карціны Вачоўскі з'явіліся сапраўдныя фанаты. Многіх насамрэч уразіла занатаваная ў фільме ідэя, што чалавецтва жыве несапраўдным, віртуальным жыццём, якое ствараюць для яго звышразумныя машыны. І толькі жменька паўстанцаў-апазіцыянераў ведаюць праўду пра стварэнне Сусвету і чакаюць нараджэння Збавіцеля па імені Нео, які выратуе людзей ад падману.

Сёння, разважаючы пра "Матрыцу", амерыканскі філосаф Г. Дрэйфус звяртаецца да алегорыі з пячорай Платона, у якой людзі жылі ў свеце ценяў. Але адзін з іх аднойчы выйшаў з цемры і адкрыў для сябе свет, такім, які ён быў у сапраўднасці. Па словах Дрэйфуса, герой "Матрыцы" Нео можа быць праабразам "таго, хто выведзе свой народ з пячоры ілюзій Платона" (цытуецца па матэрыяле "РИО"). У "Матрыцы-2" усе тыя, хто хочуць жыць у сапраўднай рэчаіснасці, хаваюцца ў горадзе пад назваю Сіон. У герояў новай стужкі ёсць толькі 72 гадзіны, каб выратаваць свой горад ад "вторжения" машын. Але чым усё скончыцца стане вядома толькі з "Матрыцы-3", якая выйдзе на сусветныя экраны ўжо ўвосень.

Трэба адзначыць, што ў стужцы "Матрыца: перазагрузка" сыгралі даволі знакамітыя акцёры — Кіану Рыўз, Лоўрэнс Фітбёрн, Кэры-Эн Мос, Моніка Белучы. І нават нягледзячы на гэта, новы фільм братоў Вачоўскі забаронены для паказу ў Егіпце, як адзначаецца ў заяве камітэта цэнзараў, у склад якога ўваходзяць кінакрытыкі, пісьменнікі, філосафы, выкладчыкі ВУЗаў, "нягледзячы на прысутнасць высокатэхналагічных спецэфектаў у фільме, ён недвухсэнсоўна закранае пытанне стварэння і быцця, што з'яўляецца прэрагатывай трох асноўных сусветных рэлігій, да якіх усе мы ставімся з павагай" (цытуецца па матэрыяле "РИО").

**В. БАРАБАНШЧЫКАВА**

*НА ЗДЫМКУ: актрыса Кэры-Эн МОС і яе экранная гераіня з "Матрыцы".*

**ЦЫТАТА АФІШЫ**

# БЕЛАРУСКІ КІНАРЭЖЫСЁР ЮРЫЙ ЯЛХОЎ:

**"...Што тычыцца ідэалогіі, то мы думалі аб тым, каб карціна мела патрыятычнае гучанне. Нездарма ў фільме з'явілася сцэна, у якой Анастасія заклікае народ ваяваць "за зямлю Слуцкую, за веру праваслаўную". Але мы ўвогуле стараліся абмінуць усе вострыя палітычныя вуглы. Менталітэт беларусаў такі, што на працягу ўсёй гісторыі ён ні з кім усур'ёз не сварыўся і не было сур'ёзных войн за нацыянальную незалежнасць. У той час нацыі беларусаў не было, яна толькі-толькі нараджалася. Мова была адна, стараславянская, некаторыя называюць яе старабеларускай. У нас у фільме няма ні канфлікту з Расіяй, ні канфліктаў з Польшчай. Хаця спачатку ўсё гэта было абазначана ў сцэнарыі. Мы адмовіліся ад гэтых палітычных скандалаў. Мы не хацелі нікога раздражняць".**

**Ю. ЯЛХОЎ: "Мы разлічвалі на расійскі рынак", "БГ", 7 ліпеня 2003 г.**



*НА ЗДЫМКУ: Ю. ЯЛХОЎ і акцёр А. КОТ падчас прэзентацыі фільма "Анастасія Слуцкая" ў Віцебску.*

**АНОНС**

***Сёння, 29 жніўня, адкрывае свой новы сезон Нацыянальны акадэмічны тэатр балета Беларусі.***

# СЕЗОН ПАЧЫНАЕЦЦА

У гэты вечар можна паглядзець вечную і ненадакучлівую класіку — "Лебядзінае возера" П. Чайкоўскага.

31 жніўня — спектакль мастацкага кіраўніка тэатра В. Елізар'ева на музыку С. Пракоф'ева "Рамэо і Джульета".

Наступны тыдзень абяцае адметную сустрэчу з музычна-сцэнічным мастацтвам: на 3 верасня замоўлены балет А. Хачатурана "Спартак" у пастаноўцы В. Елізар'ева. Паказ гэтага спектакля, вядомага і прызнанага далёка за межамі Беларусі, прысвячаецца 100-годдзю кампазітара — класіка армянскай і савецкай музыкі.

**С. Б.**



*НА ЗДЫМКУ: сцэна са спектакля "Рамэо і Джульета".*

**ФОТА В. МАЙСЯЁНКА**

**ВЫСТАВЫ**

## НАВЕДВАЛЬНІК ТЫДНЯ

З 23 красавіка па 27 верасня ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь праходзіць унікальная выстаўка — "Шэдэўры Траццякоўскай галерэі". Экспануюцца 60 палотнаў рускіх мастакоў XVIII — пачатку XX ст. Гэта першая за ўсю гісторыю стварэння нашага музея выстаўка такога маштабу.

13 жніўня а 12 гадзіне выстаўку наведаў юбілейны 75-тысячны наведвальнік. Ім стала мінчанка, студэнтка І курса Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта Наталля Буркоўская, якой дырэктар музея Уладзімір Пракапцоў уручыў адпаведнае пасведчанне і каталог выстаўкі.

Паводле слоў дырэктара ў канцы верасня музей павінен прыняць 100-тысячнага наведвальніка. Так што трэба спяшацца... Хто будзе наступны?

**У СТАЛІЦЫ**



**ЗАЛА КАМЕРНАЙ МУЗЫКІ (пр. Ф. Скарыны, 44а)**

**4 верасня — Арганны канцэрт. Грае лаўрэат Міжнароднага конкурсу Яўген Аўраменка (Масква). У праграме творы Баха, Букстэхудэ, Дзюпрэ, Месіяна.**

**УДАКЛАДНЕННЕ**

У нумары "Літаратура і мастацтва" ад 15 жніўня г.г. у матэрыяле Валянціны Бондаравай "Радзіма песень — Магілёўшчына" я ўбачыў сваё прозвішча. І мяне вельмі здзівіла сцвярджэнне В. Бондаравай, што я не маю спецыяльнай музычнай адукацыі. Хоць у свой час я скончыў і Магілёўскае вучылішча культуры (дыплом "з адзнакай"), і Мінскі інстытут культуры па спецыяльнасці "кіраўнік самадзейнага аркестравага калектыву". Усё, што трэба, ведаю! А паколькі "ЛіМ" чытаюць мае шматлікія сябры-паэты, на вершы якіх я напісаў больш за 600 песень, то мне вельмі не хочацца, каб праз вашу аўтарытэтную газету ўсе мае сааўтары (ды і астатнія чытачы) былі б уведзены ў зман. Можа, гэта і дробязь у параўнанні з нечым касмічным, але ж, калі яна з'явілася, то павінна быць дакладнай.

**З павагай,**
**Мікола ЯЦКОЎ**

**ПОЛЬСКІ ІНСТЫТУТ У МІНСКУ**
**аб'яўляе IV конкурс імя Ежы Гедройца**
***на лепшую журналісцкую працу ў беларускіх сродках масавай інфармацыі за 2003 год на тэму польска-беларускіх адносін у вобласці культуры, навукі і мастацтва.***

Умовай для ўдзелу ў конкурсе з'яўляецца прадстаўленне да 30 студзеня 2003 года ў Польскі Інстытут у Мінску арыгіналаў альбо копій апублікаваных у 2003 годзе артыкулаў, гука- і відэазапісу перадачы з паметкай аб даце публікацыі, трансляцыі, а таксама з указаннем месца працы, дамашняга адрасу і кантактнага тэлефона аўтара.

Цырымонія ўручэння дыпломаў і ўзнагароджанне пераможцаў адбудзецца ў студзені 2004 года.

**Наш адрас: Польскі Інстытут у Мінску**
**вул. Валадарскага, 6, 220050 Мінск**
**з паметкай "На конкурс"**
*Тэл.: (017) 220-95-81, 220-63-78,*
*факс: 220-48-78.*





Выходзіць З 1932 ГОДА
**У 1982 годзе ўзнагароджаны ордэнам Дружбы народаў**

**ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР**

**Віктар ШНІП**

**Рэдакцыйная рада:**

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА,**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**

**Леанід ГАЛУБОВІЧ,**

**Алесь ГАЎРОН — адказны сакратар,**

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**

**Уладзімір САЛАМАХА — намеснік галоўнага рэдактара**



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск,**
**вул. Захарава, 19**
**ТЭЛЕФОНЫ:**
**галоўны рэдактар — 284-6673**
**намеснік галоўнага рэдактара — 284-4404**
**адказны сакратар — 284-6673**

**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-7965**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7965**
**літаратурнага жыцця — 284-7965**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-7965**
**паэзіі і прозы — 284-7965**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва — 284-7965**
**карэктарская — 284-8091**
**бухгалтэрыя — 284-6672**
**Тэл./факс — 284-84-61**

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79

Індэкс 63856 Наклад 1536
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 27.08.2003 у 15.00

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і мастацтва"

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 3353

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12